# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №29 (186) 17 ЛІПЕНЯ 2000 г.


## Зьліва зь неба нарабіла бяды

Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве надзвычайных сытуацыяў, праз дажджы зь ветрам да 30 мэтраў на сэкунду ў Магілёўскім і Шклоўскім раёнах пашкоджаныя лініі электрычнасьці, абястрочаныя 47 населеных пунктаў. У Кармянскім раёне пацярпелі 52 жылыя дамы, 11 сельгасбудынкаў і 6 аб'ектаў сацкультбыту. А яшчэ шмат дзе дамы падтапіла і дрэвы на дарогах нарабілі завалаў. □

## Бабе сто гадоў

Жыхарцы вёскі Чарнілава ў Мсьціслаўскім раёне Вользе Сокал споўнілася 100 гадоў. Жыве старая адна, мае агарод, дзе вырошчвае цыбулю і капусту. Сама не тутэйшага паходжаньня. Прыехала на Мсьціслаўшыну зь Сібіры яшчэ падчас кастрычніцкай смуты. Трымаецца добра, бо ўсё працуе.

Андрэй Кузьмін

## А цяляты гараць і гараць

Здавалася, ужо й травы навалам, і страту галоднага быдла ня трэба сьпісваць на пажары ды ўсякія прыродныя катаклізмы. Аж не. БелаПАН піша, што 68 цялят згарэлі падчас пажару 15 ліпеня ў вёсцы Сямернікі Валожынскага раёну (гэта акурат як на Вільню ехаць). Кажуць, пажар у цялятніку калгасу імя К.Маркса ўспыхнуў каля 4 гадзін раніцы. У выніку загінулі ўсе цяляты, якія там былі. Прычыну пажару высьвятляюць. □

## Замест Леніна будзе вазон

Зь сярэдзіны 60-х стаяў у дворыку барысаўскай СШ №12 помнік правадыру пралетарскае рэвалюцыі. Відаць, муляў людзям вока сваёй аляпаватасьцю й нязграбнасьцю, таму й пачалі зьнікаць з каменнага стоду ягоныя часткі: спачатку рука, затым нос. Да таго ж пакрыўся ён увесь ёлкімі надпісамі. Адміністрацыя школы доўга вагалася, пакуль наважылася папрасіць рабочых разьбіць яго на кавалкі й вывезьці непатрэбны друз на сьметнік. Толькі вось груваcткі пастамэнт не было як зрушыць, таму й вырашылі скарыстаць яго пад вазон для кветак.

Сяржук Салаш

# З ТЫМІ, ХТО ЦЯБЕ РАЗУМЕЕ

***Гутарка з удзельнікамі Літаратурнага Экспрэсу-2000***



Андрэй Дынько

103 удзельнікі Літаратурнага Экспрэсу праехалі праз Менск так, нібы горад застаецца сталіцай БССР — з падкрэслена афіцыйнымі мерапрыемствамі, прыёмамі, сустрэчамі, рытуальнымі гоп-ца-ца псэўдафальклёрных калектываў і да сьмешнага знаёмай бураўкінскай рыторыкай пра чарнобыльскую трагедыю і «страшную радыяцыю дзяржаўнай хлусьні і бездухоўнасьці, што можа спапяліць мову беларускага народу».

Ніхто з тых, хто вызначае аблічча цяперашняй беларускай літаратуры ў яе разнастайнасьці: Алесь Разанаў, Уладзімер Арлоў, Адам Глёбус, Славамір Адамовіч — у склад беларускай дэлегацыі на Экспрэс зь нейкіх прычынаў не патрапіў (старэйшыя клясыкі, хочацца верыць, адкрыліся паездкі з прычынаў здароўя), дык ня дзівіць у такім разе, што ніхто й не прапанаваў арганізаваць сустрэчы удзельнікаў «Цягніка Дружбы» з рэдакцыямі «НН», «Arche» ці «Фрагмэнтаў». У Міністэрстве Культуры ня маюць сумневаў, што аксакалы з «Маладосьці» і клоўны з «Бум-Бам-Літу» нашмат больш красамоўна скажуць пра сёньня Беларусі і нашболь-Чарнобыль. Дзяржаўны творчы саюз і ягоныя шматлікія выданьні па-ранейшаму прэтэндуць на манаполію ў напаўлiквідаваным беларускім культурным гета, нібы апэратачныя юдэнраты — у жыдоўскіх канцэнтрацыйных кварталах часоў другой сусьветнай вайны. Ідэалягічныя чыноўнікі нутром чуюць тых, хто не ўяўляе пагрозы для сыстэмы, што — ужо! — «спапяліла» мову.

Я шукаў сустрэчы найперш з украінскімі, польскімі і літоўскімі ўдзельнікамі Экспрэсу ня толькі як з асабістымі сябрамі, але і як з прадстаўнікамі культураў, што найбольш услухоўваюцца ў нашую і шукаюць дыялёгу, з прадстаўнікамі тых краінаў, дзе найбольш перакладаюць беларускую літаратуру сёньня.

Даведацца пра месца іхнага выступу было няпроста. Але я не пашкадаваў, што змарнаваў час на высьвятленьне. Менавіта ў Музэі Багдановіча ў Траецкім прадмесьці, дзе, паводле афіцыйнага раскладу, мусіў выступаць Андрый Бондар, рэдактар украінскай газэты «Літаратура Плюс», і адбылася адзіная палкая дыскусія за два дні быцьця Экспрэсу ў Менску (а, магчыма, і за ўсе паўтара месяцы падарожжа літаратараў). Тэмаю сустрэчы мела быць нейкая гэткая «Мова літаратуры і мова дыпляматыі». Але размова перамясьцілася да таго, што некаторым з нас баліць, — Чачэніі.

Публікі амаль не было, толькі тыя, каму «па рабоце» мусова было прысутнічаць — супрацоўнікі «ЛіМу», бо фармальна гэта была сустрэча зь лімаўцамі, і маўклівыя гаспадары з Музэю, ды яшчэ пара панкоў, сярод якіх спсп.Чарота і Панізьнік.

Мне ад сустрэчы найбольш запомніліся не чачэнскія аргумэнты — ілюзіяў наконт каўкаскага генацыду я ня маю. Запомнілася, як прафэсар Чарота ў клятчастым гарнітуры гаварыў ад імя «Беларусі». «Мы» лічым, што любое яднаньне лепшае за разьяднаньне, «мы ў Беларусі» скептычна ставімся да эўрапейскай інтэграцыі, «мы» шкадуем пра разрыў былых сувязяў, «вы» вось тутака гаворыце пра Чачэнію, а вось «мяне як на працягу 15 гадоў кіраўніка сэкцыі перакладу Саюзу Пісьменьнікаў» клапоціць, што ў «нас» у Беларусі не падрастае маладая перакладчыцкая зьмена і «нашы» кантакты зь іншымі літаратурамі разарваныя. Зь ягонага боку была абсалютная неахвота думаць катэгорыямі рэальнасьці. Гэта ўкраінцы загаварылі пра дыскрымінацыю беларускамоўных, яны ж настоялі на дыскусіі пра Чачэнію. Сьвет жа, у якім жыве сп.Чарота, лунае, здавалася, па-за часам і прастораю. Ён прамаўляў пра хрысьціянскія вартасьці, «зоркі ў небе», «яднаньне» і «кантакты, што развіваліся ў савецкі час», цытаваў Багдановіча, але выключна, каб запратэставаць супраць умяшаньня ў чачэнскія справы і заглыбленьня ў рэальнасьць. І зноў вяртаўся да туману «сьвятых хрысьціянскіх каштоўнасьцяў».

Менскія сустрэчы зь пісьменьнікамі Эўропы, напэўна, спэцыяльна былі сплянаваныя гэткім чынам, каб пісьменьнікі-госьці як мага меней судакрануліся з рэальнаю беларускай часапрасторай. Каб было як мага менш заўважна, што існуе не адна беларуская культура з адной эстэтыкай і канонам спсп.Чароты, Пісьмянкова, Сасноўскага і Бураўкіна ды другаснымі ідэалягічнымі разыходжаньнямі ўнутры яе, а прынамсі дзьве, а напэўна і ўсе чатыры, бо побач зь беларускамоўнай беларускай культураю існуе ж і маладая беларуская культура расейскамоўная, і расейскамоўная культура імпэрская. І што гэтае рознакультур'е і спарадкае змаганьне, у якім дзяржава выразна і драпежна прыняла пэўныя бакі.

Выявілася, што і пісьменьнікі нашых краінаў-суседзяў таксама шукалі сустрэчы з «Нашай Нівай» і «Arche», мо таму, што творчыя набыткі «Маладосьці» і «Бум-Бам-Літу» нашмат больш герметычныя і звонку ня так заўважныя.

Наша гутарка адбылася за «Старавіленскім півам» у рэстаране «Ракаўскі Бровар» — на жаль,

Працяг на старонцы 6

# ЛУКАШЭНКА ЯШЧЭ МОЖА СТАЦЬ МЕНШЫМ ЗЛОМ

***Улады пачалі рэалізацыю пляну зьмяшчэньня тых прафсаюзных дзеячоў, што падпісалі скаргу на парушэньне правоў беларускіх прафсаюзаў, накіраваную ў Міжнародную Канфэдэрацыю Свабодных Прафсаюзаў. Першым «пад нож» меўся трапіць Аляксандар Ярашук, кіраўнік прафсаюзу аграрыяў. Улады дзейнічалі звыкла, па-замяталінску. Спачатку яны дабіліся вылучэньня на зьезд усіх намесьнікаў старшыняў аблвыканкамаў, адказных за аграпрамысловы комплекс, пасьля старшыня Менскага аблвыканкаму ледзьве не з дапамогаю спэцслужбаў і ледзьве не а шостай раніцы выклікаў да сябе ў кабінэт кіраўніка менскага абласнога прафсаюзу. Яму прапанавалася выступіць супраць Ярашука, а калі не... Дык у цябе ж і дзеці ёсьць... Так, прынамсі, расказвалі пра гэтую «артпадрыхтоўку» ў кулюарах зьезду. Чалавек, аднак, не паддаўся, а зьвярнуўся па дапамогу да кіраўніцтва Фэдэрацыі Прафсаюзаў. А яно на гэты раз ня дрогнула.***

## Пасьпяховы бунт

Зьезд вёў асабіста старшыня Фэдэрацыі Ўл.Ганчарык — упершыню ён асабіста кіраваў форумам галіновага прафсаюзу. На зьезьдзе прысутнічалі госьці зь іншых краінаў і назіральнікі ад прамысловых прафсаюзаў — вядомых сваёй большай незалежнасьцю ад уладаў і наймальнікаў. Пачалі з таго, што пазбавілі права голасу кандыдатаў, прасунутых насуперак Статуту зьвязу, тых самых «віцэ-губэрнатараў», што, аказваецца, не зьяўляліся нават сябрамі прафсаюзу. Кіраўнік прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасьці Г.Фядыніч пракамэнтаваў гэта так: «Зь першых галасаваньняў стала ясна, што ўлада ня мае колькаснай перавагі на зьезьдзе, і гэтыя пяць галасоў не памянялі б сытуацыі, але магло б так выйсьці, што ў выпадку, калі зьезд абірае кандыдата, няўгоднага ўраду, Мінюст скасуе вынікі выбараў, грунтуючыся на тым, што ў галасаваньні бралі ўздел несябры прафсаюзу». Як бачым, прафбосы прыйшлі на зьезд, маючы добра прадуманую праграму абароны. Тады як іхныя апанэнты дзейнічалі млява і не ў ахвотку.

Ганчарык далей правёў рашэньне аб тайным галасаваньні — і тутака замяталінцам ужо ня стала на шта разьлічваць.

Шкада толькі міністра сельскай гаспадаркі Юр'я Мароза, былога кіраўніка калгасу-камбінату «Белавескі», што пад Камянцом, чалавека цяжкое долі (у яго маладою памерла жонка, і ён сам дзеці на ногі ставіў), якога дзяржмашына вылучыла ў якасьці альтэрнатывы Ярашуку. (Прапіхваць у кіраўнікі прафсаюзу фактычнага наймальніка — поўнае фальшаваньне сутнасьці рабочага руху!) Пагадзіўшыся выконваць гэтую не ганаровую ролю, Мароз трапіў пад агонь справядлівай і несправядлівай крытыкі: упікалі яму, што разваліў сельскую гаспадарку. Казалі, што пасьля інфаркту лепей бы яму падшукаць сабе лягчэйшай працы... Карацей, бунт! І дзе — у паконлівай, век пад'ярэмленай вёсцы, на гарбе якой ускочыў ва ўладу Лукашэнка і імем якой ён ажыцьцяўляў свае каркаломныя палітычныя і гаспадарчыя праэкты.

Годзе з нас такой палітыкі, пакіраваў, Лукашу, — і злазь, а ня хочаш злазіць, то мяняй курс, — размовы дэлегатаў у кулюарах паказваюць, што настроі ў вясковага кіраўніцтва адназначныя. І гэта, відавочна, думка ня толькі прафсаюзьнікаў, гэта настроі найперш кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, вясковых цароў і багоў. Эканамічная эліта ўсьведаміла дзьве рэчы — без замежных інвэстыцыяў Беларусі не падніцца, бо ўнутраных інвэстыцыяў пры мізэрных заробках насельніцтва не дачакаеш, а валюнтарызм у цяперашняй эканамічнай сытуацыі замінае, а не ратуе.

Аляксандар Ярашук набраў 105 галасоў, а Юры Мароз — 29. Бунт перамог. На чым адыграецца адміністрацыя Лукашэнкі? Да новых галіновых прафсаюзных

Працяг на старонцы 3



Тыдзень нашага жыцьця

# КРАІНА ЎРАГАНАЎ

Прэзыдэнцкая адміністрацыя прысьвяціла тыдзень змаганьню з прафсаюзамі. На замежнапалітычным фронце У.Ярмошын і Ў.Замяталін адбівалі нападкі генсэка Міжнароднай канфэдэрацыі свабодных прафзьвязаў Біла Джордана, што прыляцеў у краіну ў адказ на скаргу беларускіх прафзьвязаў. Скарга была накіраваная ў МКСП, МКСП забіла трывогу, першы на яе адгукнуўся Біл Клінтан, пазбавіўшы Беларусь рэжыму гандлёвых прэфэрэнцыяў. У.Замяталін сьцьвярджаў, што Беларусь — адна з самых дэмакратычных у Эўропе краінаў. Прафсаюзны бос гэтым завярэньням не паверыў і прыгразіў, што, калі ўрад будзе працягваць наступ на правы працоўных, МКСП будзе заклікаць і Эўропу ўвесьці эканамічныя санкцыі супраць Беларусі. Адзіны фронт змаганьня з лукашызмам падтрымаў і кіраўнік афіцыйных расейскіх прафсаюзаў В.Шмакаў. «Трэба зрабіць усё, каб беларуская зараза не перакінулася на Расею. Я буду гаварыць пра гэта на сустрэчы з У.Пуціным», — заявіў ён.

Баяцца прафсаюзаў — бо мусілі зноў узьняць камунальныя тарыфы, на гэты раз аж да 50%.

Абвешчана пра новыя прызначэньні: нездаровага міністра сельскай гаспадаркі Ю.Мароза зьмяніў яго намесьнік Вадзім Папоў, на пасаду віцэ-прэм'ера вярнуўся рэктар Політэхнічнай акадэміі Міхаіл Дзямчук, у чарнобыльскім міністэрстве І.Кеніка зьмяніў Уладзімер Цалко, а ў Брытаніі пасла У.Шчаснага — Валер Садоха.

Дата выбараў у «палату» абвешчаная — 15 кастрычніка, але няясна, ці трэ будуць каму тыя выбары.

Уступныя іспыты ў ВНУ выявілі, што кожны пяты абітурыент-мэдаліст ня толькі што пяцёркі не пацьвярджае, а ўвогуле пралятае на «два балы».

Газэта «Звязда» ў сваім суботнім нумары распавяла аб працягу гісторыі змаганьня электрамэханіка «Белаэранавігацыі» Ўладзімера Плаксы за права карыстацца беларускай мовай на працы. Гісторыя, лічы, бясконцая, як і праблема...

У Косаве альбанцы па ўсім краі ставяць помнікі ахвярам змаганьня за незалежнасьць супраць югаслаўскага прыгнёту. Помнікі гэтыя ўвекавечваюць альбанскія нацыянальныя сымбалі, а іхнае адкрыцьцё суправаджаецца балючымі ўспамінамі і — усплёскам ксэнафобіі. Сілы КФОР спрабуюць зьбіць гэтую мэмарыяльную хвалю.

На сустрэчы ў Замосьці польскі прэм'ер Е.Бузэк і ўкраінскі —В.Юшчанка, рэфарматар і верагодны пераемнік Кучмы, адкрылі помнік Сямёну Пятлюру, кіраўніку Ўкраінскай Народнай Рэспублікі і прыхільніку альянсу Ўкраіны і Польшчы. На сустрэчы абмяркоўваліся дэталі ўдзелу краінаў у транспартаваньні каспійскай нафты па маршруце Адэса—Броды—Гданьск. У Адэсу яна будзе паступаць з Грузіі па Чорным моры.

Буран праляцеў над Беларусяй у суботу, пакінуў 900 вёсак безь сьвятла, зболышага на Віцебшчыне, адзін чалавек загінуў. Без такіх ураганаў не абыходзіцца цяпер ніводнае лета. А сёньня зноў пахаладаньне і дождж. Апошнімі гадамі вымалёўваецца новы клімат Беларусі — вельмі гарачыя і сухія канец траўня-чэрвень і вельмі мокры ліпень. Людзі кажуць, што гэта Сьвяты Пятро перабпытаў, што яму людзі казалі, і папрасіў у Бога дажджу тады, калі косяць, а не тады, калі просяць.

Добры гэты холад толькі тым, хто на Нарачы адпачывае. Бо на Нарачы так і так нельга плаваць — вада там заражаная шыстаматоідным цэркарыёзам, якія пераносяць крыжанкі і малюскі, і ад якога часотка нападае.

Б.Т.

З усёй краіны

## Маёр пабіў камандзіра

Да 10 гадоў зняволеньня можа атрымаць маёр адной з магілёўскіх вайсковых частак. Ён зьбіў свайго камандзіра, падпалкоўніка. Як сёньня лічыць следзтва, афіцэр так цяжка «парушыў субардынацыю» з прычыны сваёй недысцыплінаванасьці і нежаданьня выконваць загады начальніка. Праўда, пакуль невядома, наколькі разумныя былі тыя загады.

Сымон Глазштэйн

## З фронтаўцаў — у лімонаўцы

На 2 мінімальныя заробкі аштрафаваны Баранавіцкім судом «русский патриот» Міхась Савіцкі за напад месяц таму на штаб-кватэру Баранавіцкага БНФ «Адраджэньне». Нагадаю чытачам «НН», што тады тры «лімонаўцы» выклікалі на лесьвічную пляцоўку старшыню Фронту 19-гадовага Алеся Пікулу ды, даведаўшыся, што ён адзін, пачалі зьбіваць.

У позве, якой выклікаўся ў суд Алесь Пікула, значыўся цікавы надпіс «для беседы». Судзьдзя запрасіла ў кабінэт на размову яго й Савіцкага, ды адразу ж праз паўгадзіны вынесла прысуд. «Лімонавец» заявіў, што ня ведае сваіх падзельнікаў, ды ўсю віну ўзяў на сябе. За тыдзень да суду Савіцкі ўладкаваўся на працу – беспрацоўных не штрафуюць, а садзяць на суткі. Дарэчы, сам ён – сын вялікага міліцыянта ў адстаўцы...

На судзе «русский патриот» трымаўся разьвязна. Распавёў пра сваю крыўду – пабілі яго ў Менску на апазыцыйным мітынгу за тое, што быў апрануты як скін – камуфляж ды боты зь «белымі шнуркамі». Цяперака, як заявіў ён судзьдзі, ён са сваімі сябрукамі зьбіраецца «зачысьціць Беларусь ад нацыяналістаў».

У выпадку паўтору парушэньня закону М.Савіцкага чакае турма. Аднак шкода глядзець на такіх падлеткаў, якім розная расейская поскудзь тлуміць галаву, а беларускія арганізацыі нічога прапанаваць ня могуць. Прыходзіў жа раней гэты «лімонавец» на штаб-кватэру Фронту, размаўляў па-беларуску, браў чытаць кніжкі, пахадзіў ды сыйшоў. Шукаў больш радыкальную арганізацыю, і падчас тых пошукаў знайшлі яго расейскія бальшавікі... Сам ён распавёў, што стаў «лімонаўцам» ня столькі з-за ідэалёгіі, колькі з-за таго, што не жадае так больш жыць і хоча нешта зьмяніць у гэтай краіне. Патрапіў бы ён ад пачатку пад уплыў «Белага легіёну» ці «Краю», быў бы зусім іншы чалавек.

Руслан Равяка, Баранавічы

## Дворнікі нагадалі, што яны — людзі

У Бабруйску ўпершыню ў Беларусі пратэставалі дворнікі. На стадыёне «Фандок» прайшоў дазволены ўладамі пікет. Людзі выказвалі сваё незадавальненьне заробкам, а таксама хамскімі паводзінамі некаторых начальнікаў. Магілёўскі праваабаронца Валадар Цурпанаў, які сустракаўся напярэдадні з арганізатарамі пікету, кажа: «Бабруйск уражвае чысьцінёй сваіх вуліц. Гэта сведчыць пра добрую працу людзей, якія тую чысціню ствараюць. Але ім прыходзіцца працаваць дзеля гэтага зь пяці гадзін ранку і аж цэлы дзень. Абслугоўваюць па некалькі ўчасткаў, бо не хапае людзей. І пры гэтым атрымліваюць усяго 12-17 даляраў».

Сымон Глазштэйн

Пазытывы

# БЕЛАРУС І КНІГА

Сьціплыя статыстычныя разьлікі сьведчаць, што існуе прыкладна 9.000.000 пісьменных беларусаў, зь якіх умее чытаць па свойму ня меньш за 6.000.000. Тэарэтычна на сьвеце можа быць да 2.000.000 прыватных беларускіх бібліятэк (калі лічыць бібліятэкай нават 1 кніжку).

Ёсьць гэтаксама некалькі пытаньняў, на якія варта шукаць адказу сёньня ўсім чытачам "Нашай Нівы":

- які адсотак беларусаў ня мае ў гаспадарцы ніводнай кнігі на роднай мове і чаму?
- куды дзяюцца выдадзеныя кнігі і каму яны патрэбныя?

Напрыклад, творы К.Маркса ў перакладзе на беларускую мову выдаваліся неаднаразова агульным накладам 350.000, Ф.Энгельса – 250.000, У.Леніна – 5.000.000, І.Сталіна – 8.000.000 асобнікаў. Тое самае адбывалася з матэрыяламі парцейных зьездаў і да т.п. лухтой. Кожная сям'я павінна зараз мець тузін камуністычных кніжак. Ня мае...

Доля кніг, выдадзеных па-беларуску ў агульным накладзе,%




Пра іншыя жанры няма чаго й казаць, бо пасьля ўзьяднаньня большасьці нацыі ў адной дзяржаве суадносіны накладаў беларускага і расейскага няўхільна мяняюцца ў горшы бок, і гэта добра відаць на малюнку.

Тое самае адбываецца і з колькасьцю найменьняў. Да вайны выдавалася найменьняў кніг па-расейску ўдвая больш, чым па-нашаму, а па вайне сярэднія суадносіны беларускіх да расейскіх – **1/7**. Калі ж паглядзець суадносіны па ўмоўных друкарскіх аркушах, дык наогул - **1/9**. Тым часам агульны наклад усіх выдадзеных кніг вырас з саракавога году больш як ў шэсьць разоў.

У сярэднім за год выдавалася нашай мовай 380 найменьняў кніжак таўшчынёй каля 200 старонак і накладам 7000 асобнікаў кожная. Гэта значыць, на сям'ю прыпадала штогод па 1,3 новых беларускіх кніжкі, а з улікам вышэйзгаданых і іншых перавыданьняў – 0,37.

Зразумела, што выдаюцца ня спрэс шэдэўры. Таму, каб сабраць сто лепшых кніг стагодзьдзя, сярэдні беларускай сям'і ста гадоў трэба хопіць.

Такімі тэмпамі можа жыць толькі нацыя, якая глядзіць ў бясконцы Сусьвет нібы на другі бераг ракі.

лісты ў рэдакцыю

### *ПРА ЗАВАДЗКАГА, БТ, КГБ ДЫ ОРТ*

*Я вельмі люблю «Нашу Ніву», таму быў непрыемна зьдзіўлены публікацыяй «У ізгоях», падпісанай «Б.Т.» у мінулым нумары, дзе шмат чаго нагадвае БТ іншае. Па-першае, дзеля аб'ектыўнасьці варта было б назваць Зьмітра Завадзкага колішнім тэлеапэратарам БТ, які разам з двума іншымі быў замацаваны за Лукашэнкам, а не «былым асабістым апэратарам». Асабіст завёўся на Карла Маркса параўнальна нядаўна. Па-другое, калі пісаць, што пан Завадзкі за кратамі «пайшоў на супрацоўніцтва з КГБ, за што яго спачатку ўшчуваў Шарамет», дык трэба дадаваць дэталі. Можа, Б.Т. меў на ўвазе толькі вядомае інтэрвію Зьмітра ў турме агенцтву «Інтэрфакс-Захад»? Тады ўсё праўда. Але ж калі тут нешта іншае, гэта проста брыдка — хаваючыся за ініцыяламі, абвінавачваць у сувязях з КГБ чалавека, які зьнік і ня можа зараз адказаць на такую публікацыю.*

*Я, напрыклад, ведаю, што падчас першых допытаў у Гарадзенскім ізалятары Павал Шарамет заявіў КГБшнаму сьледчаму, што сам ён у Літву не хадзіў, а дзе бадзяўся Завадзкі, ён ня ведае. І толькі потым адвакаты параілі Шарамету зьмяніць паказаньні.*

*Перад тым, як тры гады таму Шарамета пазбавілі акрэдытацыі ад ОРТ пры МЗС, я патэлефанаваў яму ды настойліва папрасіў яго абскарджаць гэтае рашэньне праз суд. Ён паабяцаў, а замест гэтага пацягнуў -- ужо без акрэдытацыі -- на мяжу зь Літвой (гэта значыць, у турму) сваіх падначаленых, у тым ліку Зьмітра Завадзкага, які акрэдытацыю меў. Таму на мяжы (ды за кратамі) Шарамет быў проста грамадзянінам, а Завадзкі -- замежным журналістам. На жаль, пра гэта ў беларускай прэсе ня пішуць. А «Наша Ніва», якая справядліва крытыкавала Шарамета за яго імпэрскае «Время» зь Няўзоравым, цяпер таксама спрабуе зрабіць героя з чалавека, праз якога Завадзкі атрымаў ужо дзьве буйныя непрыемнасьці. Чытач, які падрабязнасьцяў ня ведае, можа нават падумаць, што Зьміцер узгадаў старое ды сам дапамог КГБ захапіць сябе ў аэрапорце.*

Юры Сьвірко, Менск

### *КАРАТКЕВІЧ І ВЕРА*

*Чытаючы пра дні Караткевіча ў Віцебску ды Воршы, я падумаў, што й Караткевіча ў нас цяпер пачынаюць пераварочваць, як каму трэба. Напрыклад, ніхто ня кажа, наколькі сур'ёзна ставіўся ён да веры...*

*Ад часоў перастройкі хто толькі й на якія лады не перапяваў гэтае слова... Вера. Яго згадвалі палітыкі й паэты, мастакі й сьвятары. Вера. Па прашэсьці гадоў пра яе згадваюць усё радзей. Дакладней, пра яе перасталі казаць гучна. Палітыкам, што заклікалі верыць у сьветлую будучыню, казаць пра гэта ўжо ніёмка. Паэтам, што прысягалі ў сваёй веры ў народ, таксама. Але сама Вера набыла пакрысе ў Беларусі свой натуральны, спракавечны сэнс... Людзі, якія ставяць крыжы на ростанях, якія кленчаць перад вясковымі капліцамі, ці ўпрыгожваюць галінкі вярбы на Вербніцу, ня кажуць пра Веру. Яны вераць. Можна з іроніяй глядзець на абразок ці расьпяцьце ў салёне машыны, альбо на тое, як уважліва былыя камуністы чытаюць Біблію ў электрычках... Але бадай, ня варта. Бо калі згадаць нашае жыцьцё 30-ці альбо й 15-гадовай даўніны, дык гэткія праявы вонкавае рэлігійнасьці не здаюцца сьмешнымі. Людзі, нарэшце, атрымалі права самім ва ўсім разабрацца. Зазірнуць у бяздоньне свае душы. А вось калі людзі кажуць, што трэба верыць хоць у што, абы верыць — гэта сьмешна. Бо за гэткімі словамі хаваецца боязь жыцьця наогул і няўменьне кіраваць сваімі пачуцьцямі. Зазвычай гэта недалёкія людзі, якія хочуць, каб усе навокал былі лепшымі. А самі яны не адчуваюць патрэбы зьмяняцца. Вера — гэта духоўная праца. Верыць у свой народ цяжка. Бо гэта азначае працу. Працу дзеля гэтага народу, працу над самім сабою, каб быць вартым гэткае веры. Памятаеце адчайныя словы Караткевіча:*

*Край забыў сваю мову*
*І матчынай песьні напеў.*
*Цяжка верыць у Бога,*
*Калі ён такое дазволіў.*
*Цяжка верыць у люд свой,*
*Калі ён такое сьцярпеў.*

*Але Ўладзімер Караткевіч верыў, верыў усё жыцьцё, да апошняе кроплі — у свой люд. Яму, свайму народу, ён і прысьвяціў усяго сябе бяз рэшты. Сярод тлуму дэманстрацыяў, сярод урачыстых фэстаў у бажніцах, сярод будзённае плыні, які не хапае беларусам сёньня гэткае веры. Веры чыстай, ахвярнай і абавязкова добрай. Бо Беларусь уратуюць толькі тыя, хто будзе поўны дабрыні й пяшчоты да свайго краю. Гэткі, якім быў Уладзімер Караткевіч... Мо тады й паадпадаюць недарэчныя спрэчкі пра тое, якой веры мусіць быць беларус: каталіцкае, праваслаўнае ці якое іншае. А ў нашым мястэчку тольькі пра тое і гаворкі. Хоць як ні круці, і каталікі й праваслаўныя разам у няволі.*

Л.Паўднявец, Лынтупы

### *НЕШТА СА СМІ ПРЭЗЫДЭНЦКІМІ СТАЛА...*

*У «Советской Белоруссии» пад рубрыкай «Афіцыйна» надрукавалі падрыхтаваны БЕЛТА пераліс віншаваньняў Аляксандру Лукашэнку з нагоды 3 ліпеня ад каралёў Гішпаніі і Ярданіі, эміра Бахрэйна, прэзыдэнтаў Кіпру і Фінляндыі. Апошняй краіне, хоць яна ў гэтым пераліку ішла першай, не пашанцавала, бо фінскую прэзыдэнтку Тар'ю Халанен зрабілі мужчынам, напісаўшы «ён пажадаў...»*

*А Беларускае тэлебачаньне настолькі ўзрадавалася супрацоўніцтву з калінінградзкай тэлерадыёкампаніяй «Янтарь», што цэлы дзень круціла сюжэт Алены Ладуцькі з фрагмэнтамі супольнага фільму, у канцы якога на ўвесь экран была падзяка тэлерадыёкампаніі «БелОрусь».*

*Застаецца спадзявацца, што ў Фінляндыі пана Лукашэнку жанчынай не прадстаўляюць, а якое-небудзь Магілёўскае абласное тэлерадыёаб'яднаньне пры стварэньні разам з РТР нейкай перадачы не аддзячыць у тытрах тэлеканалу «РоСия». Хоць РТР, баючыся пакрыўдзіць калег, усё роўна паказала б гэтую памылку. Ці ня праўда, таварыш Кісель?*

Юрыс Окрыўс

# ЛУКАШЭНКА ЯШЧЭ МОЖА СТАЦЬ МЕНШЫМ ЗЛОМ


Здымак Анатоля Клешчука

*Працяг са старонкі 1*

зьездаў, а яны рыхтуюцца ў верасьні, замяталінцы будуць рыхтавацца грунтаўней, зьбіраць кампрамат, падбіраць кандыдатаў.

### Культмасавыя прафсаюзы

Трэба думаць, асноўны ўдар прыйдзецца на Г.Фядыніча і кіраўніка прафсаюзу заводаў сельскагаспадарчага машынабудаваньня дэпутата А.Бухвостава, двох самых ангажаваных у палітыку і сьведамых свайго патэнцыялу ў падрыхтоўцы глыбокіх грамадзкіх зьменаў кіраўнікоў. Бо менавіта гэтыя двое падаюць іншым прыклад незалежнасьці і пасьпяховага існаваньня ва ўмовах рэальнага супрацьстаяньня зь дзяржавай. Непатапляльны Ўл.Ганчарык таксама можа стаць аб'ектам інтрыг, і яму будзе цяжэй — за ім, у адрозьненьне ад галіновых лідэраў, няма падтрымкі рабочых і ніжэйшага кола прафаргаў. Наадварот, працоўныя ня любяць прафнамэнклятуры за яе колішняе згодніцтва.

Фармаваньне моцных прафсаюзаў — неад'емны элемэнт стварэньня грамадзянскай супольнасьці. Досьвед паказвае, што прафсаюзы на пераходным этапе могуць трапляць у залежнасьць ад працадаўцаў, але не павінны заставацца пад каўпаком дзяржавы, паколькі гэта кансэрвуе сыстэму фактычнае няволі працоўнага ў рабаўласьніка-дзяржавы.

Шлях прафсаюзаў да адшуканьня сапраўды значнае ролі і высокага статусу ў грамадзтве ляжыць праз зьмену лідэра — ім павінен стаць чалавек зьнізу, якога падтрымлівала б ня толькі прафсаюзная ерархія, але й шырокія працоўныя масы. Прафсаюзам патрэбны на сёньня лідэр харызматычны, палкі. Сп.Ганчарык, пры ўсёй павазе да ягоных узважаных і незалежных палітычных поглядаў, такім чалавекам ніколі ня стане. Было б добра, каб ён сам знайшоў і падрыхтаваў сабе зьменшчыка з улікам нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

Афіцыйныя прафсаюзы — ня дужа небясьпечны вораг Лукашэнку. Іхны аўтарытэт у народзе нізкі, а нізавыя структуры не падрыхтаваныя да актыўнага змаганьня. У адрозьненьне ад прафбосаў нацыянальнага ўзроўню, прафаргі на месцах застаюцца другаснымі арганізатарамі культмасавай працы. Незалежныя ж прафсаюзы застаюцца маргінальнай сілай на заводах.

Усё ж нават у такіх прафсаюзах улады бачаць для сябе пагрозу. А таму і новы Працоўны кодэкс, і пагатоў прэзыдэнцкія дэкрэты з удакладненьнямі ў зразаюць правы працоўных і прафсаюзаў да ўзроўню, нечуванага ў краінах, што лічацца раем эканамічнага лібэралізму. Досыць згадаць тэрміновыя кантракты і права на звальненьне работніка паводле іх або тое, што працэдура арганізацыі страйку мусіць доўжыцца амаль 3 месяцы, а ня некалькі дзён, як у бастыёне капіталізму Амэрыцы.

### Ідэальная дыктатура

Беларускі «эканамічны цуд», якога спадзяюцца ягоныя творцы, мае ў сваёй задуме грунтавацца на амаль фэўдальнай эксплюатацыі працоўных. Беларус, паводле задумкі распрацоўшчыкаў, павінен працаваць з той самай прадукцыйнасьцю, што й паляк, літовец, расеец, за заробак, у шэсьць разоў меншы, чым у палякаў, у чатыры — чым у літоўцаў, у два — чымся ў расейцаў. Канвэер «Гарызонту» рухаецца з той самай хуткасьцю, што й канвэер «Шыляліс» ў Шаўлях ці «Рубіну» ў Маскве. Імпартаваныя кінэскопы таксама каштуюць заводам аднолькава, як прыкладна за аднолькавыя грошы прадаецца тэлевізар. Куды ж, паводле распрацоўшчыкаў схемы, мусіць дзявацца розьніца, заашчаджаная беларускім працадаўцам-дзяржаваю на заробках? Рознымі ўскоснымі шляхамі адна частка мае пападаць у кішэню кіраўніцтва Беларусі («бо дзяржава — гэта я»), другая — у кішэню маскоўскіх транснацыянальных карпарацыяў, якія гэтае кіраўніцтва трымаюць на сваіх штыхах-спэцслужбах і забясьпечваюць яму «інфармацыйную падтрымку». Трэцяя ж, найбольшая, ідзе на падтрыманьне інфраструктуры і вытворчыя інвэстыцыі — бяз гэтага сыстэма ўпала б, а з гэтым зьнікае патрэба ў замежных і прыватных інвэстыцыях, і, значыць, краіна можа існаваць і безь легітымных уладаў, і без крэдытаў МВФ, і без супрацоўніцтва з «цывілізаваным сьветам».

Вось гаспадарчая схема «ідэальнай дыктатуры». Па такой схеме ў 70—80-х эксплюатаваў карэйскіх рабочых Чон Ду Гван, а маляйзійскіх — Магатгір Магамет.

Існуюць дзьве пагрозы такой сыстэме.

Па-першае, сыстэма добра працуе там, дзе магчымы лёгкі кантроль за якасьцю працы, напрыклад, на канвэеры «Гарызонту». Але сыстэма не спрацоўвае там, дзе кантроль немагчымы. Касара, доктара, настаўніка, навукоўца добра працаваць за 20 даляраў у месяц не прывучыш. Усё адно скосіць высака, не дагледзіць, раней часу дзеці параспускае, нічога ня вынайдзе.

Па-другое, можа ўзьнікнуць бунт. Мітынгі, страйкі, сабатаж.

Як сыстэма дае рады гэтым дзьвюм пагрозам? На змаганьне зь першай мабілізуюцца ўсе дадатковыя рэзэрвы. У вёску ўлетку адпраўляюць на працу гарадзкое насельніцтва, уводзіцца прыгонная сыстэма абавязковага разьмеркаваньня маладых спэцыялістаў, разгортваецца прапагандысцкі апарат, ствараецца агульная атмасфэра страху і караў, стратэгічнымі рэчамі проста ахвяруецца і г.д. Другое папададжаецца драконаўскімі дэкрэтамі, кодэксам, ізноў жа высілкамі прапагандысцкага апарату і стварэньнем агульнай атмасфэры страху — звальненьнем мэтрапалітэнаўцаў, крывавымі разгонамі незалежніцкіх шэсьцяў і г.д. Ясна, што і для першага, і для другога трэба, каб было як мага меней дэмакратыі і як мага болей гісьтэрыі.

Дэмакратыі і свабодам няма месца ў такой эканоміцы!

А самае сьмешнае ва ўсім гэтым тое, што заходняя і ўсходняя крайнія лявіцы працягваюць шанаваць Лукашэнку як ідала!

Аўтары схемы разьлічвалі, што транснацыянальныя карпарацыі хуценька скемяць выгоду працы на расейскім рынку пры ўдвая-утрая ніжэйшых, чым у Расеі, заробках і рахманай, як у канцлягеры, працоўнай сіле, і прымусяць сьвет прызнаць права Беларусі на існаваньне паводле сваіх арыгінальных законаў. Але яны пралічыліся, мо таму, што законы сьвету здаваліся ім прасьцейшымі і падлейшымі, чым яны ёсьць — такая памылка ўласьцівая дылетантам-правінцыялам.

Расейскія капіталісты і ваеншчына сапраўды хутка знайшлі супольную мову з Лукашэнкам, але ў цэлым сьвет і глябальная эканоміка былі ўжо ня тымі, час ня той і месца ня тое, што ў Карэі 70—80-х.

Ніякія карпарацыі ў Беларусь не прыйшлі, і паколькі часу на тое мелі цэлыя шэсьць гадоў, дык мусіць ужо й ня прыйдуць.

Расейцы знайшлі супольную мову, але не зракліся мараў пра поўны кантроль над экспартнапаплатнымі беларускімі вытворчасьцямі — найперш нафтаперапрацоўкай, мэталюргіяй, хіміяй, а таксама транзытнымі камунікацыямі, і гэтая іхная ласасьць стварае заўсёдную небясьпеку таго, што яны, з уласьцівай сёньняшнім расейцам гарачнасьцю ў выбары сродкаў, захочуць паставіць замест Лукашэнкі прэзыдэнтам чалавека нашмат больш падатлівага і расейскага — нейкага, скажам, юрыста, генэрала ці вядучага Радыё Бі-Эй. Бо Лукашэнка, у сілу сваёй няўрымсьлівай працы па ізаляцыі беларускай культуры, ізаляваў яе ўжо да такой ступені, што сам аказаўся занадта беларускім для стварэньня ім сыстэмы. Сыстэма дзяржаўнай улады, завязаная на ўсім расейскім, сёньня патрабуе ўжо сабе ў кіраўнікі меней беларускага чалавека, чым Лукашэнка. У гэтым драма Лукашэнкі і пагроза ягонай уладзе.

А ізаляцыя беларускай культуры адбылася, бо тая несла, лічылі праектанты, палітычную пагрозу задуманай сыстэме звышэксплюатацыі і самаўладзьдзя, якое такую эксплюатацыю гарантуе — бо беларуская культура нясе пэўную гістарычную традыцыю свабоды і права, як і пэўныя геапалітычныя сымпатыі.

### Беларускі варыянт Кучмы

Але ў гэтым самым і драма беларускай апазыцыі. Рэальнасьць сёньня такая, што зьмяніць Лукашэнку можа толькі нашмат больш марыянэтка Масквы, яшчэ больш цынічны й варожы нашым ідэалам. А значыць, што ёсьць пагроза ў другі раз трапіцца ў пастку 1994 году, калі, скіраваўшы ўсе сілы на барацьбу з Кебічам, беларуская правіца прывяла да ўлады нашмат менш кіраваную і непрадказальную сілу.

Цяпер зноў уся незайздросная моц беларускай культуры скіраваная на дыскрэдытацыю гэтага ўвасабленьня зла і беспрынцыпнасьці, гэтага сымбалю нашага нацыянальнага рабства — на калгаснага банапарта. Пры гэтым ігнаруецца той факт, што вал расейскае культуры і мядыяў, што нясуць расейскі нацыяналізм і погляд на сьвет, цяпер настолькі магутны, што па-сапраўднаму страшны ўжо не Лукашэнка. Жахнуцца нас прымусіць можа той чалавек, якога Лукашэнку падрыхтуюць на зьмену. Альбо Лукашэнка, перавыхаваны расейцамі на яшчэ больш свойскі лад — калі гэта магчыма. Мы яшчэ згадаем тады цяперашняга Лукашэнку. Тады, пад засеньню арла і трыкалёра, мы яшчэ пауспамінаем з настальгіяй чырвона-зялёны сьцяг, газэту «Звязда» і радыёстанцыю «Сталіца».

Такі найгоршы варыянт разьвіцьця расейскай экспансіі ў Беларусь ужо стаў цалкам магчымы. Бо некаму бліскуча ўдаецца нацкоўваць тых, чыя кааліцыя даўно магла б памяняць шлях разьвіцьця Беларусі — Лукашэнку і правую апазыцыю.

Таму што зьмяніць Лукашэнку можа й... сам Лукашэнка, але ў якасьці беларускага варыянту Кучмы. Толькі дзеля гэтага ён мусіць выканаць некаторыя ўмовы.

### Альтэрнатыва расейскаму пратэктарату

Беларусь, у адрозьненьне ад Малдовы, ня ёсьць дзяржавай-банкрутам per definizionem, ня ёсьць, ужо дзякуючы таму, што не перасіленая вялікімі ўнутранымі разладамі, затое мае мінімальна выгадную геаграфічную сытуацыю і прамысловы патэнцыял. Між тым нават у такой безнадзейнай сытуацыі, як малдоўская, дзяржава ж нейкім чынам функцыянуе.

Няпраўда, што *альтэрнатывы ядналеньню з Расеяй няма.* Саслабіўшы расейскі пратэктарат, Беларусь нешта страціць — энэргарэсурсы за паўцаны найперш. Але нешта й набудзе — магчымасьць будаваць безумоўна выгадныя для нас капіталістычную эканоміку і ўласную інфармацыйную прастору.

Аддзяленьне ад Расеі для Лукашэнкі — рызыка, але ня меншай рызыкай для яго — і далейшае ўсё больш каляніяльнае існаваньне. У любы момант можа ўключыцца, каб зьмесьці яго, прапагандысцкая машына расейскіх СМІ, што ня мае тармазоў. А раптам зьнікненьне Завадзкага і ёсьць такім уключэньнем? Бо як бы лукашэнкаўская адміністрацыя не фраерылася, а проціставіць гэтай машыне ў яе няма чаго.

Пэўная зьмена курсу насьпела. Яе зразумее народ, яе чакае эліта. Яе вымагаюць нацыянальныя інтарэсы Беларусі. Лукашэнка можа прыняць умовы апазыцыі, пайсьці на дэмакратычныя выбары, выйграць іх горш ці лепш. Тады прыбраць грэблю і даць вадзе беларускае гісторыі пацячы туды, куды яе напраўляе рэльеф. Гэта зможа адбыцца без Лукашэнкі, але гэта можа адбыцца і зь ім ужо сёньня.

Лукашэнка сёньня мог бы стаць меншым злом для ўсяе інтэлігенцыі і маладое заможнае клясы ды іхных палітычных сілаў, каб не ягоныя касьмічныя амбіцыі і маніякальная пягнуткасьць і недальнабачнасьць. Лішне казаць, што да канца Лукашэнка нас ніколі б не задаволіў, але каму да гэтага справа?

Наіўна было б заклікаць Лукашэнку ахвяраваць сваім палітычным рэйтынгам дзеля найвышэйшых нацыянальных інтарэсаў Беларусі і ісьці на нейкія адкрыта непапулярныя ці антырасейскія крокі. Аднак першы прэзыдэнт Беларусі можа, карыстаючыся сваім палітычным талентам, зрабіць стаўку на іншыя эканамічныя, замежнапалітычныя і культурныя прыярытэты. Для гэтага трэба толькі пераадолець супраціў кіраўнікоў прадпрыемстваў, завязаных на расейскім рынку і кантраляваных з удзелам Масквы, і нэўтралізаваць пэўныя сілавыя структуры — з дапамогай іншых, больш беларускіх. Ніхто больш такому павароту пярэчыць ня будзе — нават аграрыі. Ясна, што пасьля гэтага Лукашэнка перастане набіраць 80% на выбарах. Але хай мне хто дакажа, што 55% галасоў — горш.

Лукашэнка, падаецца, яшчэ можа стаць беларускім варыянтам Кучмы. Калі ж не — яго чакае безнадапаможнае дажываньне ў вечным страху перад старэйшым братам і ўнутранай апазыцыяй. Бо й дурню ясна, што гэты юрыст, генэрал ці вядучы Радыё Бі-Эй, прыйшоўшы да ўлады, найперш зробіць з Лукашэнкам тое, чаго вымагае расейская палітычная традыцыя і плебс, цярпеньне якога вычарпанае звышэксплюатацыяй.

**Андрэй Дынько**



# СЬВЯТА БЕЛАРУСКАСЬЦІ

У канцы чэрвеня ў горадзе Барысаве спартова-турыстычны клюб «Волат» праводзіў адборачны турнір па міні-футболе. Формула спаборніцтваў дазволіла толькі адной зь дзесяці камандаў-удзельніц патрапіць у турнір пад назвай «Кубак незалежнасьці», які пройдзе 21 ліпеня ў Барысаве. Больш за сотню хлапцоў ва ўзросьце ад дванаццаці да дзевятнаццаці гадоў з Барысава і раёну ўпарта змагаліся за перамогу. Упэўненую перамогу атрымала каманда з Барысаўскага раёну Прыборы, якая складалася зь сяброў спартова-турыстычнага клюбу «Волат».

Пасьля напружаных гульняў кожная каманда атрымала суцяшальны прыз -- відэакасэту з запісамі беларускіх рок-гуртоў. А потым усе разам — і гульцы, і заўзятары — адсьвяткавалі заканчэньне адборачнага туру... мінэральнай вадой.

Адсутнасьць бруднай расейскай лаянкі, дух пабрацімства і ўзаемадапамогі панавалі падчас правядзеньня гэтага сьвята беларускасьці. Вялікая колькасьць балельшчыкаў з нацыянальнымі сьцягамі, плякаты з заклікамі да сваіх камандаў і воклічы «Жыве Беларусь!» — атрыбуты барысаўскага турніру, які праводзіцца другі год запар. Штораз набіраючы сілы і вядомасьці, турнір можа стаць агульнанацыянальным.

Ненадакучлівая прапаганда беларускасьці — адна з мэтаў гэтага спаборніцтва — была дасягнута. Арганізатары дасягнулі цудоўных вынікаў, «прымусіўшы» звычайных дваровых хлопцаў размаўляць па-беларуску. Беларуская мова красавала пад нацыянальнымі сьцягамі. Адроджаны беларускі дух здольны тварыць цуды. Нават шэра-блакітныя прадстаўнікі ўлады ня здолелі сапсаваць сьвята.

Але самыя цікавыя падзеі нас чакаюць наперадзе. «Кубак незалежнасьці» чакае пераможцаў.

**Волат**

Дзе варта быць

## Вандроўкі на канапе

БТ падрыхтавала выхад для самых заўзятых лянотнікаў: на гэтым тыдні можна будзе крыху павандраваць па Беларусі, седзячы перад тэлеэкранам. 19 ліпеня (у сераду) ў 16.00 – тэленарыс да 600-х угодкаў Валожына; 20 ліпеня (чацьвер) у 8.15 гледачоў правядуць па замках нашай краіны з дапамогай фільма «Замкі Беларусі»; 23 ліпеня (у нядзелю) у 15.10 праграма «Беларускі дом» запрашае ў тэлевандроўку ў старажытны Тураў, а таксама – ў невялічкую экскурсію па старэйшай у Беларусі Добрускай папяровай фабрыцы.



Здымак IREX/PROMedia

## Раскопкі ў Менску

Як выявілася, старажытны цэнтар беларускай сталіцы ня толькі руйнуюць, але й дасьледуюць. На скрыжаваньні вуліц Рэвалюцыйнай ды Камсамольскай ідуць раскопкі. Не зважайце на савецкія назвы – гэта камуністы перайменавалі. Насамрэч гэты куточак старога места сапраўды мае багатую гісторыю. Хто жадае паўдзельнічаць (аплата, дарэчы, гарантуецца) можа кіравацца да месца раскопак пасьля 15.00 штодзённа, акрамя нядзелі. Зьвяртайцеся па дадатковую інфармацыю да археоляга спадара Русава – тэл. 243-61-22 (21.00-23.45).

## Летнік у Горадні

З 21 да 28 ліпеня каля Горадні будзе наладжаны летнік для пераможцаў рэспубліканскага конкурсу «Зямля пад белымі крыламі», што праводзіўся Таварыствам Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны ўвесну. Удзел у ім возьмуць каля дваццаці школьнікаў-пераможцаў. У праграме летніка: экскурсія па Горадні з наведваньнем гістарычных месцаў і музэяў, сустрэчы з гісторыкамі, краязнаўцамі, бардамі, інтэлектуальныя і спартовыя гульні. Адбудзецца таксама тэатралізаваны паказ гістарычнай дзеі «Хрышчэньне Літвы», у якім удзельнічаюць рыцарскія клюбы, тэатральныя і мастацкія калектывы Гарадзеншчыны. Ладзіць летнік ТБМ імя Ф. Скарыны і ТТА «Сьвятавіт».

## Арганны канцэрт

20 ліпеня а сёмай вечара ў залі камэрнай музыкі Філярмоніі на аргане грае Тацяна Шчэрба (Масква). Праграма канцэрту: Яган Сэбастыян Бах – «Фантазія соль мажор», дзьве харальныя апрацоўкі, прэлюдыя, фуга до мінор; Антонiё Вівальдзі і Яган Сэбастыян Бах – канцэрт ля мінор; Я.С.Бах – два харальныя трыо, пасакальля.

## Дзеткі пра Скарыну

У рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася выстава шостага дзіцячага міжнароднага пленэру, у якім бралі ўдзел дзеці зь Беларусі, Расеі і краінаў Балтыі. Канцэпцыя пленэру заключаная ў трыадзінстве: «Пераемнасьць пакаленьняў», «Дзеці як стваральнікі міру», «Культура Беларусі – частка сусьветнае культуры». Экспазыцыя прысьвечаная Ф.Скарыну. У межах пленэру дзеці езьдзілі ў Полацак.

**Алесь Кудрыцкі**

## Запрашаем у вандроўку

З 2 да 7 жніўня адбудзецца традыцыйная штогадовая рыцарская вандроўка «Па сьлядох адной ліцьвінскай дружыны» – у Чэхію, на рэканструкцыю адной зь бітваў Гусіцкіх войнаў – штурм Млазавіцкага замку у 1424 годзе.

Рыцарскі стан разьбіваецца чэхамі на краі дагледжанага мястэчка Млазавіцэ каля вялікага адкрытага басэйну, побач – карчма, а ў цэнтры мястэчка – файная рэстарацыя (хто ўжо езьдзіў – пацьвердзіце!).

Разам з рыцарскімі відовішчамі вандроўнікі наведаюць і пабачаць колькі старых чэскіх замкаў зь іхнымі багатымі калекцыямі і, натуральна, прыгажосьць златай Прагі. Тэлефон для даведак у Менску: 232-0008.

**Ігар Міхна**



БТ вачыма беларуса

# КІСЕЛЬ НА ДЭСЭРТ

У жніўні на БТ зьявяцца некалькі тэлепраграмаў францускай вытворчасьці. Заключаная дамова паміж «Першым нацыянальным каналам» і Францускім Міжнародным каналам, CFI. CFI займаецца закупкай праграмаў розных тэлекампаніяў Францыі і распаўсюдам іх на каналах іншых краінаў, якім было б цяжка самім гэта набыць. Гэткі мяккі францускі культурніцка-інфармацыйны ўплыў. Адпаведныя пагадненьні з CFI маюць 17 каналаў (і дзяржаўных, і прыватных) з былых сацыялістычных краінаў (сярод постсавецкіх – акрамя Расеі ды Эстоніі). Мяркуецца, што на БТ будзе 7 гадзінаў францускага эфіру штомесяц. Першыя паўгады – забясплатна, потым – 300 даляраў за месяц. Тэмы розныя – і мастацкія, і дакумэнтальныя, і мультфільмы, канцэрты. Ужо пачаўся запіс ды пераклад праграмаў. На беларускую.

А Рыгор Кісель гэтага, хутчэй за ўсё, не пабачыць. На пасадзе старшыні БТ ён сядзіць ледзь не апошнія дні. Практычна вырашанае пытаньне пра ягоны, як гэта звычайна робіцца, перавод на іншую працу – амбасадарам у адну з краінаў Сярэдняй Эўропы. Але напрыканцы ён яшчэ здолеў падкласьці сьвіньню Сталічнаму тэлебачаньню (СТВ). Як пісала «НН» у мінулым нумары, ужо тыдзень як выпускі сталічных навінаў меліся выходзіць у эфір ня толькі на «8-м», але й на канале ОРТ. Патрэбныя дамоўленасьці зь Міністэрствам сувязі Беларусі ды расейцамі былі. А Кісель загадаў сваім тэхнічным службам не пушчаць у эфір канкурэнтаў. Хаця, якая там пакуль канкурэнцыя – чатыры разы на тыдзень 15 хвілінаў менскага жыцьця пасьля гадзіны ночы. Але ж улез будучы амбасадар РБ не ў свае міждзяржаўныя пагадненьні, замяніў сабой цэлае беларускае міністэрства.

Лепш бы нармальнай канкурэнтаздольнасьці ды «раскруткі» БТ дамагаліся ад уласных праграмаў ды супрацоўнікаў. А то ў «Тэленавігатары» доўга й з гонарам распавядалі пра інтэрнэтаўскі сайт БТ, а самае галоўнае – які ж адрас?! – не сказалі. Гэта, напэўна, каб гледачы ў «гасьцявую кнігу» ня здолелі напісаць, што яны пра БТ думаюць...

**Арцём Лук'яновіч**

## Канавалаў і расейцы

2000 год міжнароднае мастацкае аб'яднаньне «Сонечны квадрат» вырашыла адзначыць вялікай выставай у маскоўскім цэнтральным Доме мастакоў. 5 ліпеня адкрылася прэзэнтацыя вэрнісажу з удзелам 18 аўтараў. Сярод іх і палачанін Аляксандар Канавалаў. Менавіта прысутнасьць ягоных твораў у экспазыцыі дазволіла арганізатарам выставы назваць яе міжнародн*ай* — астатнія ўдзельнікі ўсе расейцы. Канавалаў выставіў шэсьць жывапісных працаў з сэрыі «Прыватная архітэктура». Адмыслова да гэтай падзеі быў выдадзены каталёг. У яго ўключаныя тыя карціны, якія выстаўленыя на аўкцыён. З малатка пойдзе праца Канавалава «Уваход».

## Лобач шукае чараўнікоў

Другі тыдзень жывуць у намётах ля вёскі Лагі паміж Ушацкім і Лепельскім раёнамі 10 студэнтаў «гістфаку» цяпер ужо другога курсу Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У гэтыя глухія мясьціны выправілася этнаграфічная экспэдыцыя на чале з выкладчыкам ПДУ Ўладзімерам Лобачам. Які ўжо год запар гэты зацяты прыхільнік аўтэнтычнай дахрысьціянскай беларускай культуры шукае ў розных закуточках Віцебшчыны старыя паданьні, песьні, легенды, узгадкі пра відуноў, чараўнікоў, народных лекараў. Вось і гэтым разам полацкі дасьледчык спадзяецца на добры «ўлоў». Праўда, дажджлівае надвор'е неспрыяльнае для лягернага жыцьця. Іншая справа — самі пошукі... Як вядома, у дажджыстыя вечары добра прыгадваецца старое.

**Васіль Кроква, Полацак**

# ВАНДРОЎКА Ў ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНІ КРАЙ

Згуртаваньне моладзі «Эўрапейскі шлях» зладзіла для пераможцаў віктарыны «Шоў беларушчыны» і сяброў Цнянскай рады Маладога Фронту экскурсію па паўночна-заходняй Беларусі.

Сьпярша ўдзельнікі выправы наведалі мястэчка Вішнева (з праездам праз Валожын), дзе ўшанавалі магілу Канстанцыі Буйлы і папрысутнічалі на імшы, якую правіў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў мясцовым касьцёле ( XVI ст., раньняе барока). Пасьля церазь Дзясятнікі і Гальшаны скіраваліся да Ашмянаў. Там моладзь вітаў велічны і стромы, нібыта падвешаны ў паветры, касьцёл, пабудаваны ў стылі віленскага нэабарока. Потым быў Гудагай, дзе моладзь наведала драўляны і вельмі ўтульны касьцёл кармэлітаў, пабудаваны ў форме каўчэга ў XIX ст. У Астраўцы, пасьля агляду дамініканскага касьцёлу і помніка Восіпу Гашкевічу, удзельнікі экскурсіі наведалі выставу яшчэ зусім маладога (16 гадоў), але таленавітага мясцовага мастака Алега Базылевіча.

У Малях экскурсанты мелі магчымасьць агледзець экспазыцыю ў мясцовай бібліятэцы, прысьвечаную першаму консулу Расейскай Імпэрыі ў Японіі — Восіпу Гашкевічу. Ад маёнтку Гашкевіча ў Малях, на жаль, нічога не засталося, акрамя прысядзібных ліпаў.

У Варнянах моладзь захаплялася велічнасьцю касьцёла, пабудаванага ў стылі позьняга віленскага барока, і назірала праявы мясцовага калярыту ў выглядзе помніка Чапаеву і крамы «Віно-гарэлка», што суседзяць з касьцёлам.

У вёсцы Трокенікі мы знайшлі маёнтак мастака Богуша Шышкі і прыватны музэй пудзілаў жывёлаў і птушак краю, які заснаваў мясцовы паляўнічы Слава Зьмітровіч. Шмат уражаньняў пакінуў таксама 500-гадовы дуб, які стаіць побач з маёнткам на ўскрайку тэктанічнага разлому зямной паверхні (глыбінёй блізу 30 м), што ўтварыўся тутака пад час землятрусу 1905 г. (моцай 5—6 балаў).

Потым паехалі ў Міхалішкі, дзе месьціцца ўнікальны касьцёл аўгусьцінцаў XVII ст., пабудаваны ў барочным стылі, які амаль аўтэнтычна захаваўся да нашых часоў.

І, нарэшце, цудоўным завяршаньнем 14-гадзінавай экскурсіі стала наведваньне велічнага, гатычнага, вышынёй у 64 м (!) касьцёла ў Гярвятах. Пробашч ксёндз Леанід паказаў наведвальнікам шмат рэдкіх дрэваў і кустоў, якія ўтвараюць міні-сад вакол касьцёла. Як высьветлілася, кс.Леанід захапляецца батанікай і марыць стварыць у будучыні «райскі» сад вакол касьцёла.



На разьвітаньне ўдзельнікі выправы пасадзілі два дрэўцы, адмыслова прывезеныя зь Менску і, праслухаўшы некалькі партыяў на аргане, якія выканаў Аляксей Фралоў, ад'ехалі дахаты.

Проста дзіва, што столькі ўсялякіх дзіваў можна пабачыць за адзін дзень.

**Янка Цітовіч**



# РАСЕЙЦЫ «МОЧАЦЬ» САМІ СЯБЕ





У мінулую пятніцу, позна ўвечары расейская фэдэральная артылерыя абстраляла мястэчка Ханкала. Гэта ня дзіва, бо расейцы штодзень абстрэльваюць і руйнуюць чачэнскія паселішчы налева-направа. Дзіва (ці зноў ня дзіва?), што расейцы абстралялі ўласны штаб аб'яднанае вайсковае групоўкі. У выніку ад трапнага залпу расейскае зброі загінулі два расейскія вайскоўцы, а яшчэ адзін застаўся цяжка параненым.

Расейцы выпусьцілі па расейцах шэсьць 120-мілімэтровых снарадаў. Яны «замачылі» ўласную баявую ахову штабу аб'яднанае групоўкі. Быў падбіты таксама танк.

Ястржэмбскі на гэта тактоўна прамаўчаў. А начальнік артылерыі Сяргей Матвееў вельмі далікатна патлумачыў, што агонь вёўся па групе баевікоў, якія знаходзіліся «паводле зьвестак разьведкі, за 500 мэтраў ад штабу групоўкі», але «снарад сыйшоў у іншы бок і патрапіў у танк». У прэсавым цэнтры аб'яднанае групоўкі гэтую думку разьвілі творча й заявілі, што залп быў адказам на напад чачэнцаў. Дарэчы, толькі нядаўна трапнасьцю й дакладнасьцю расейскае зброі захапляўся спадар Пуцін, які сам у Ніжнім Тагіле стрэліў з гэткае самае гаўбіцы, якой расейцы абстралялі расейцаў. Пікантнасьць сытуацыі дадае й тое, што гэтая гаўбіца ўзору 1938-га году! Вось з такіх гарматаў расейцы ў 39-м абстрэльвалі Вільню ды іншыя нашы гарады й мястэчкі...



Сёньня генэральская трызьня пра «баевікоў» абвергнутая. Паводле апэратыўных зьвестак, камандзір аднаго з артылерыйскіх падразьдзяленьняў выдаў «няслушную» інфармацыю на вядзеньне агню. Зараз праводзіцца дэталёвае расьсьледаваньне... Ці ня гэтым тлумачыцца ўпэўненасьць чачэнцаў у сваёй перамозе? Прадажнасьць расейскіх вайскоўцаў ні для каго не сакрэт. Заўчора ж, да прыкладу, міліцыя Дагестану затрымала расейскага памежніка, які спрабаваў збыць кілю трацілу. Як перадалі мэдыі, 29-гадовы начальнік паста назіраньня марской памежнай службы мічман Алег Шабанаў зьбіраўся прадаць дзьве трацілавыя шашкі й дэтанатары да іх, якія скраў са сваёй жа вайсковай часткі. Яго затрымалі падчас гешэфту... Ня дзіва, што дасьведчаныя чачэнскія жаўнеры проста могуць абыходзіць любыя пасты й пасткі. У дадатак «мачыць» расейцаў іхнай жа зброяй.

Ня дзівіць таксама й хлусьлівасьць расейскіх дзяржаўных прэсавых службаў, якія выліваюць цэбары хлусьні на экраны ды ў газэты, не міргнуўшы вокам. Пры тым, пасьпяваюць саміх сябе і абвяргаць. Напрыклад, толькі ў мінулую суботу раніцай той жа Ястржэмбскі, сказаў, што ніякіх выбухаў на чыгунцы не было, а ў абед ужо казаў, што – такі быў тэракт, у выніку якога загінуў адзін чалавек і шасьцёра параненыя. Праўда, і тут ён пасьпеў сказаць паўпраўду. Ён стаіў, што там загінула паварыха Маргарыта Захарава, якая абслугоўвала спэццягнік генэрала МУС. Во як міліцэйскія генэралы ваюююць! З абслугаю, у спэццягніках. У генэрала вагон быў браняваны. А ў ягонай кухні – не. Хоць мог загінуць і гэты генэрал, імя якога ніхто не назваў. Па чыгунцы было раскладзена 7 радыёкіраваных фугасаў (ці ня купленых у расейскіх вайскоўцаў). Аварыя была непазьбежнаю. Але апроч таго, за трасаю бронецягніка назіралі сотні чачэнскіх вачэй. І калі грымнуў выбух, грымнула й кананада з бліжэйшых гор. Бой цягнуўся 40 хвілінаў. Партызаны сыйшлі незаўважна. Пра гэта прэсавы сакратар Ястржэмбскі таксама прамаўчаў. Прамаўчаў і пра тое, што адбылося ўсё гэта за 40 км ад шматкроць «зачышчанага» Грознага. І пра тое, што з-за 100 мэтраў цалкам зьнішчанага чыгуначнага палатна быў паралюшаваны рух ад Аргуна да Гудэрмеса.

Але ў астатнім у Чачэніі «абстаноўка спакойная», паведамляюць з Крамля. Мінулыя суткі прайшлі наогул спакойна. Былі нават праведзеныя агульнарэспубліканскія спартовыя спаборніцтвы. У паселішчы Курчалой прайшлі аўтаралі хуткаснага манэўраваньня. Удзельнічалі 30 майстроў аўтамабільнага спорту. Плянуецца ўжо ўвосень наладзіць нават аўтапрабег Масква-Грозны...

Праўда, былі зафіксаваныя тры абстрэлы з аўтаматаў і мінамётаў. А яшчэ былі выяўленыя магутныя асколачныя радыёкіраваныя фугасы на дзьвюх дарогах. Ну й яшчэ быў напад на аўтакалёну расейцаў. Пад Грозным, ля Чарнарэчча. Ну й зьнішчана там была пара адзінак бранятэхнікі. А яшчэ па сваім чачэнскім тэлебачаньні выступаў Масхадаў. Ён уначы зьвярнуўся да сваіх суайчыньнікаў у простым радыёэфіры. Заклікаў забіваць здраднікаў. Заклік пачулі. І забілі аднаго. Кіраўніка расейскае адміністрацыі ў Алхан-Юрце. Адкуль вядуцца тэлетрансьляцыі, расейцы ня ведаюць. Дзе хаваюцца прэзыдэнт Чачэніі й ягоны штаб, ды ягоныя камандзёры — Басаеў, Гелаеў, Хатаб ды іншыя – таксама. Вось і страляюць расейцы куды давядзецца – па гарах дык па гарах, па сваіх штабах дык па сваіх штабах. Мачыць дык мачыць. Ну й матэрыяльнае становішча можна палепшыць, прадаўшы пару фугасаў ці снарадаў тубыльцам... Расейская зброя слаўная.

**Гары Куманецкі**



# ЛЫЖАЧКІ ЗЬ ДЗІРКАМІ

### *Беларусы вачыма замежнікаў*

Мне заўсёды падабалася назіраць, як іншаземцы рэагуюць на звыклыя і зразумелыя для нас, беларусаў, рэчы. Маркую, што паглядзець на нашае жыцьцё вачыма грамадзянаў замежных краінаў вельмі карысна і цікава. Прапаную Вам некалькі такіх назіраньняў — з досьведу камунікацыяў з канадцамі.

У 1993-м годзе да нас у інстытут пачытаць лекцыі прыехалі чалавек 10 выпускнікоў-магістраў унівэрсытэту Заходняга Антарыя (Канада). Мне хацелася папрактыкавацца ў ангельскай мове, і я заўсёды швэндаўся зь імі.

1. Аднойчы канадцы, стоячы на прыпынку, асьцярожна запыталіся:

— Алекс, што здарылася ў вашай краіне? Па тэлевізіі, здаецца, нічога не казалі.

— А што такое?

— Ведаеш, мы сёньня раніцай пабачылі, што ў нас у гатэлі няма гарачай вады. Можа ў вас нейкая прыродная катастрофа, прыкладам, землятрус?

— Не, ніякага землятрусу няма. Гэта заўсёды так — на месяц гарачую ваду адключаюць.

І тут пачалося нешта невераґоднае — канадцы сталі рагатаць. Вось, маўляў, насьмяшыў. Я кажу — праўда, так будзе. Сьмяюцца. Сьмяяцца перасталі назаўтра. Сталі на прыпынку, чухалі патыліцы. Тлумачыў ім потым, як трэба грэць ваду ў чайніку ды палівацца.

2. Аднойчы мы пайшлі ў цэнтар Менску на экскурсію. Канадцы захацелі папіць кавы, і мы рушылі ў «Цэнтральны». Там разам з кавай нам далі маленькія лыжачкі... зь дзіркай на дне. Мае канадзкія сябры доўга глядзелі на старыя алюміневыя лыжачкі. Потым запыталіся:

— Алекс, нашто гэтыя дзіркі? Пэўна вы, беларусы, вынайшлі новы спосаб заварваць і мяшаць каву?

— Не, кажу, проста дзіркі робяць дзеля таго, каб лыжачкі ня кралі.

— Красьці гэтыя старыя алюміневыя лыжачкі зь перакручанымі ручкамі? Каму яны патрэбныя? Не падманвай, Алекс, скажы праўду — які сакрэт?

— Няма ніякага сакрэту. А лыжачкі пэўна некаму патрэбныя, калі крадуць.

Яшчэ колькі разоў перапытвалі, але ўсё адно не паверылі, што ў дне сталых лыжачак робяць дзіркі дзеля таго, каб іх ня скралі.

3. Хадзілі па Менску з канадзкімі сябрамі. Яны схацелі папіць соку, потым кавы, потым ізноў соку. У розных месцах розныя напоі нам налівалі ў тыя самыя гранёныя шклянкі. Канадцы, якія чыталі нам эканоміку, былі вельмі зьдзіўленыя. Яны сказалі мне:

— Алекс, вось табе прыклад удалага бізнэсу. Гэтая фірма, што вырабляе гранёныя келіхі, пэўна, мае найбольш сучаснае абсталяваньне і ў выніку правільнай маркетынгавай кампаніі змагла пасунуць з рынку іншых вытворцаў!

Ну, як ім было патлумачыць, што іншых, акрамя гранёных, у нас папросту няма!

**Аляксей Дзікавіцкі**


## Віленскі Пэдагагічны Ўнівэрсытэт



*набірае студэнтаў на 1 курс факультэту славістыкі, спэцыяльнасьць — беларуская філялёгія. Акрамя таго, прапануем дадатковыя спэцыяльнасьці: расейская філялёгія, польская філялёгія, мэтодыка пачатковага навучаньня, гісторыя культуры, журналістыка. Навучаньне завочнае, платнае, тэрмін 5 гадоў.*

***Прыём дакумэнтаў — да 1.09.2000 г. Падаюцца:***

*1. Атэстат (копія) альбо дыплём вышэйшай школы (выпіска).*
*2. Мэдычная даведка.*
*3. 4 каляровыя фотакарткі (3х4).*
*4. Выпіска з працоўнае кніжкі (калі ёсьць).*
*5. Заява на імя рэктара.*

***Дакумэнты можна высылаць на адрас:***
*Baltarusių filologijos katedra*
*Vilniaus pedagoginis universitetas*
*Studentų g. 39-527, 2034 Vilnius, Lietuva*

***Падрабязная інфармацыя: тэл.: (8-10-370-2) 75-03-60 (катэдра), 73-18-41, 75-77-41. Тэл. у Менску: (8-0172-2) 70-46-63. Факс: (8-10-370-2) 75-16-04. E-mail: slav@vpu.lt***

## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ | 22:00-23:30 | 6105<br>9535,9750 | 49<br>31 |
|---|---|---|---|---|---|
| 18:00-19:30 | 7295,<br>9610<br>11725<br>15565 | 41<br>31<br>25<br>19 | | 11865 | 25 |
| ЧАС | kHz | ХВАЛІ | 06:00-07:00 | 6065,<br>7295<br>9635, 9750 | 49<br>41<br>31 |

*Сярэднія хвалі — 576 і 612 кгц*
Адрас: 220005 Менск –5, п/с 111; Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ
*Інтэрнэт:* WWW.SVABODA.ORG



**НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!**

# З тымі, хто

*Працяг са старонкі 1*

рэдакцыі і «Нашай Нівы», і «Arche» занадта малыя, каб умясьціць шасьцёра гасьцёў адначасова. У гутарцы ўзялі ўдзел Мікола Рабчук, публіцыст, адказны рэдактар кіеўскага інтэлектуальнага месячніка нумар адзін «Крытыка», Юры Андруховіч, ці ня самы чытаны з сучасных украінскіх пісьменьнікаў, Кацярына Батанава, кіеўская літаратарка, Андрый Бондар, Геркус Кунчус і Лаўрынас Каткус.

Мы былі яшчэ ўсе ў запале той дыскусіі, што ўзарвала сон Музэю — расейскія ўдзельнікі адстойвалі права Расеі помсьціць чачэнцам, украінцы, палякі, літоўцы гэтае права аспрэчвалі. Было горача.

## Палітыка і літаратура

**— Якая перадгісторыя дыскусіі, чаму спрэчка выбухнула ў Менску?**



Юры Андруховіч: Пад час нядаўняга перабываньня ў Пецярбургу Мікола Рабчук купіў Літаратурную газету, а ў ёй была ўкладка «Петербург». І там былі апублікаваныя матэрыялы круглага стала з удзелам шасьцёх расейскіх інтэлектуалаў наконт чачэнскай вайны. І выявілася, што два ўдзельнікі круглага стала — гэта падарожнікі нашага экспрэсу, два расейскія пісьменьнікі. Адзін зь іх, сп.Варламаў, выступіў з дастаткова жорсткімі й катэгарычнымі заявамі. У іх апраўдваецца гэтая вайна, ён апэлюе да пачуцьця нацыянальнае годнасьці расейцаў. Ён кажа, што нам гэтая вайна патрэбная для ўмацаваньня нацыянальнай годнасьці расейцаў, страчанай пад час першае чачэнскае вайны, у тым ліку і ў выніку тэрарыстычнага акту Басаева ў Будзёнаўску. «Расея ня можа не адпомсьціць» чачэнцам, кажа ён. «Трэба ўжываць сілу, і ніякіх перамоваў — магчымае толькі сілавое рашэньне». Словы сп.Варламава ўзрушылі нас, і ўва ўкраінскіх пісьменьнікаў нарадзілася ініцыятыва напісаць ліст на імя расейскага прэзыдэнта з сваімі меркаваньнямі і заклікам спыніць баі, спыніць агрэсію, спыніць жорсткасьць. Подпісы пачалі зьбіраць у Маскве, сабралі 62 подпісы. У Менску мела адбыцца запланаваная тутэйшымі арганізатарамі дыскусія на тэму «Мова літаратуры і мова дыпляматы». Адным з удзельнікаў яе быў вызначаны Андрый Бондар.



Андрый Бондар: Мы падпісалі ліст супраць ваенных дзеяньняў у Чачэніі, а ня супраць Расеі як такой. Круглы стол у Літаратурной газете ўразіў нас бесчалавечнасьцю стаўленьня да чачэнцаў, і мы вырашылі прадэманстраваць свой пратэст і выклікаць расейцаў на шчырую размову. Яны разнэрваваліся. Яны высоўвалі свае стандартныя аргумэнты — што чачэнцы ёсьць тэрарыстамі, што Чачэніі нельга даваць свабоду, бо гэта рабаўласьніцкая нацыя, але яны так і не адказалі на нашае галоўнае пытаньне: за вайну яны ўсё ж ці супраць вайны.

Нам было прыкра за беларускіх інтэлектуалаў, удзельнікаў дыскусіі. Беларусы настолькі хацелі зглаДзіць усе куты, настолькі баяліся выказаць хоць нейкую пазыцыю... Мы як літаратары мусім гаварыць пра літаратуру, казалі яны.

Ю.А.: Хто ўвогуле прынёс палітыку сюды? Якое дачыненьне да нас мае гэтая Чачэнія? — абураліся яны. — Пра Чачэнію трэба гаварыць у Чачэніі, а пра Заір трэба гаварыць у Заіры. І ўвогуле, чаму вы тутака не гаворыце пра праблему Курдыстану, а гаворыце пра Чачэнію, закідаў нам сп.Чарота.

А.Б.: Едучы праз Расею, што вядзе вайсковыя дзеяньні супраць уласнага народу, мы як літаратары не маглі маўчаць. Мы ўсталі на абарону чачэнскага народу. Дый расейскага народу, што сам церпіць ад дзеяньняў уласнага кіраўніцтва. Выступілі супраць тых, хто праз мас-мэдыі пашырае чалавеканенавісьніцкія настрої.

Зь беларускай дэлегацыі ліст-зварот да Пуціна падпісаў толькі Андрэй Федарэнка, доўга нам дзякаваў і раіў не паказваць ліст іншым удзельнікам, а Вольга Іпатава і Леанід Дранько-Майсюк ліста не падпісалі.

Увогуле ліст падпісалі амаль усе цэнтральнаўсходнеэўрапейцы і не падпісалі многія заходнеэўрапейцы. Ніводзін з расейцаў не падпісаў.

## І пра Беларусь таксама

**— Гэта й былі асноўныя падзелы Эўропы, што выявіліся на прыкладзе Экспрэсу?**

Ю.А.: Моўныя бар'еры замінаюць камунікацыі. Камунікацыя Ўсход—Захад адбываецца на павярхоўным узроўні, што залежыць ад валоданьня мовамі-пасярэднікамі. Мы ўвесь час таварышавалі сваім колам — украінцы, палякі, літоўцы, грузіны... У гэтым коле не прыходзілася тлумачыць элемэнтарныя рэчы, што, напрыклад, украінская мова адрозьніваецца ад расейскай. Заходнія літаратары таксама трымаюцца ў сваіх колах. Моўны падзел ляжыць на паверхні, але ён уключае ў сябе таксама глыбейшыя рэчы — спосаб жыцьця, мэнтальнасьць, умовы існаваньня, супольную мову ў нейкім шырэйшым, мэтафарычным сэнсе. Ад гэтага залежыць камунікацыя. Цяжка гаварыць пра нейкія найноўшыя тэндэнцыі ўкраінскай літаратуры з тым, хто дагэтуль ня ведаў, што ўкраінская мова адрозьніваецца ад расейскай.

Так, падзелы Эўропы застаюцца. І адчуваюцца. Для людзей з Захаду вялікім псыхалягічным выпрабаваньнем быў уезд у кірылічную частку сьвету. У Каралеўцы мы бачылі паніку ў іхных вачах, калі яны глядзелі на надпісы кірылічнымі літарамі, бо яны ня ўмелі арыентавацца ў гэтым сьвеце, дзе ня ўмееш нават прачытаць, як што называецца.

Літэкспрэс апраўдвае сябе на ўзроўні перакладчыцкіх праектаў, што зьдзяйсьняюцца ў нас на вачах. А дадатковы сэнс Літэкспрэс набыў сёньня ў Менску пасьля нашай дыскусіі пра Чачэнію і пра вайну. Дагэтуль, да Менску, усё было максымальна карэктна і адстаронена. Кожны чытаў свае тэксты, пасьля хтось іншы чытаў пераклад на мову краіны, у якой усё гэта адбывалася, падрыхтаваны загадзя. Паслухалі і разышліся. Тутака, у Менску, у гэтую атмасфэру ўварвалася нешта сапраўднае. Упершыню пад час дыскусіі мы ўвайшлі ў стан абсалютнага ўнутранага напружаньня, шукалі аргумэнты, каб пераканаць сябе саміх, што мы маем рацыю, што мы павінны былі зрабіць тое, што зрабілі. Мы мусілі адказаць на закіды расейцаў, даказаць, што гэта ня проста танная інтрыжка ўкраінцаў, што хочуць гэткім чынам прыцягнуць да сябе ўвагу. Што мы падпісалі зварот, каб сказаць кіраўніку дзяржавы, што вядзе несправядлівую вайну, што гэтая вайна — несправядлівая.



Мікола Рабчук: Пра Чачэнію вы перад мною добра ўсё сказалі. Я адно шкадую, што мы ў пэўным сэнсе выдыхліся на чачэнскай тэме і ня мелі запалу як сьлед зьвярнуць увагу на беларускую праблематыку. Я адно кароткай рэплікай пасьпеў сказаць пра парушаныя правы беларускамоўнага насельніцтва Беларусі, пра ненармальную сытуацыю, калі карэннае насельніцтва стае фактычна чужынцамі на ўласнай зямлі і ягоныя правы ўсяляк уціскаюцца. Я спадзяваўся, што беларускія калегі разаўюць гэты матыў, але, на жаль, марна. Праўда, і абсякаць яны мяне ня сталі, так гэтая тэма і завісла ў паветры. Між тым, гэты сапраўды важная тэма. Мы бачым, як славянскі народ зь вельмі цікавай культурай ставяць на мяжу зьнікненьня. Мы бачым, як паноўная расейскамоўная большасьць ня толькі нічога ня робіць, каб падтрымаць беларускамоўных, але, наадварот, усяляк абмяжоўвае іх чалавечыя правы і на асьвету, і на атрыманьне інфармацыі. Гэта мусіла б стаць аб'ектам нашай увагі.

## Пытаньне сумленнасьці

**— Каб ваш Экспрэс ехаў 70 гадоў таму, каб у ім ехалі ня Юры Андруховіч, Дубраўка Ўгрэсіч і Андрэй Федарэнка, а Рамэн Ралян, Максім Горкі, Яніс Райніс, дык да пісьменьніцкага звароту неадменна прыслухаліся б. Але якія шанцы, што да вашага звароту нехта прыслухаецца цяпер? Што, голас пісьменьнікаў усё яшчэ нешта важыць у сёньняшнім сьвеце?**

М.Р.: У Польшчы, калі мы былі ў Мальбарку, я купіў газэту, а там — інтэрвію з Станіславам Лемам. Аказваецца, перад нашым лістом быў падобны пратэст супраць вайны ў Чачэніі, падпісаны некалькімі сотнямі эўрапейскіх інтэлектуалаў. Лем быў сярод тых, хто падпісаў, хоць у гутарцы з журналістам сказаў, што ня верыць у гэтыя подпісы, што гэта ўсё дурніцы. Лепш, кажа, сабраць пару соцень даляраў, чым пару соцень подпісаў на карысьць пацярпелых. А навошта ж вы падпісалі, пытаецца карэспандэнт. Ну, мяне папрасіў мой прыяцель Чэслаў Мілаш, кажа Лем.

Думаю, Лем трохі франдуе і фрасыцца, бо, каб ён не хацеў, ня стаў бы падпісваць і для Чэслава Мілаша. Недзе ў глыбіні душы і ён спадзяецца, што кропля точыць камень. Ні Лем, ні Андруховіч ня маюць ілюзіяў што да ўплыву нашых пратэстаў. Зь іншага боку, нават калі шанцы на тое, каб быць пачутымі, мінімальныя, гэта варта было зрабіць хоць бы для таго, каб мы самі сябе паважалі. Каб тыя, што вядуць вайну, ня думалі, што ўсе з гэтым зьмірыліся. Гэта пытаньне асабістай сумленнасьці і адказнасьці.

А.Б.: Мы сваімі подпісамі хацелі найперш нагадаць заможнай частцы Эўропы, што адказнасьць за Чачэнію ляжыць і на іх, бо Эўропа сканчаецца на Ўрале. Чачэнія — вялікая ганьба найперш Эўропы Заходняй, што не ўжывае дастатковых мераў, каб стрымаць расейскія ваенныя злачынствы.

Мы ведаем, што гэтыя лісты не даходзяць да адрасата, але мы не маглі ехаць праз Расею, што стварыла канцлягер у Чарнакозаве, і не падпісаць гэтага ліста.

Гэта элемэнтарныя рэчы: пісьменьнік ня можа ня быць супраць людзкое сьмерці, гвалту, руйнаваньня горадоў.

Калі б Польшча бамбіла Беласток або Шлёнск, мы б таксама выступілі зь лістом да Квасьнеўскага.

**— Вы выяўляеце ангажаванасьць у грамадзкія справы. Але дзе межы гэтай ангажаванасьці, дзе яна мусіць пачынацца? Там, дзе кроў, дзе гвалт, там пісьменьнік павінен умешвацца, кажаце вы. А калі няма вялікай крыві, а ёсьць задушэньне культуры, скажам?**

М.Р.: Пісьменьнік ня ў стане рэагаваць на якую-кольвек несправядлівасьць, але пісьменьнік, як любы чалавек, чульлівы да любой несправядлівасьці. Гвалт любы мусіць быць асуджаны, у любой форме.

І я, і мае калегі падпісалі б такі самы пратэст супраць бамбаваньня сэпаратыстаў у нас ва Ўкраіне, у Данбасе ці Крыме, бо я ўважаю, што ніякі шматок зямлі ня варты таго, каб за яго гінулі людзі. Калі нейкая тэрыторыя хоча аддзяліцца, а яе насельніцтва настолькі ненавідзіць мэтраполію, дык няма сэнсу ўтрымліваць сілком, нікога ня трэба трымаць сілком. Праблема, зь якой сутыкаецца Расея ў Чачэніі, — не ўнікальная. Такія праблемы перажылі ўсе імпэрыі сьвету. Францыя мела падобныя праблемы ў Альжыры, дзе ішла падобная бязьлітасная вайна з арабамі. Такія праблемы мелі іншыя краіны з калёніямі. Расея ж чамусьці ўпарта не жадае прызнаць, што ўвесь Каўказ быў інкарпараваны ў Расейскую імпэрыю сілаю. А любая калёніі ўрэшце павінны стаць незалежнымі.

Косаўская праблема ў гэтым кантэксьце наўрад ці магла б стаць казырнаю картаю расейцаў. Яна хутчэй была б аргумэнтам супраць расейскае палітыкі, бо Захад, які зрэагаваў у Косаве на генацыд альбанскага насельніцтва, калі б ён быў не крывадушным, а досыць пасьлядоўным, ён мусіў бы таксама зрэагаваць на генацыд, ажыцьцяўляны расейцамі супраць мірных жыхароў Чачэніі.

## Чачэнія — найвышэйшы сэнс

**— Такі праект, як Літаратурны Экспрэс, мусіць перасільваць пісьменьніка. Ці ж штука — месяц у кампаніі тых самых людзей, месяц выступаў на тыя самыя тэмы. Што вы здабылі, паехаўшы з Экспрэсам?**



Геркус Кунчус: Я бачу найвышэйшы сэнс гэтага нашага падарожжа якраз у гэтай сьціплай заяве, якую мы падпісалі. Мы разумелі, што гэта ня дойдзе да расейскага бога...

М.Р.: Але дойдзе да праўдзівага Бога!

Г.К.: Хіба так, хіба так!.. Але мы мусілі гэта зрабіць, і я страшэнна задаволены, што зрабілі. І сёньняшняя менская дыскусія таксама ўсьцешыла мяне — нам удалося зьвярнуць увагу на тэму Чачэніі, прымусіць іншых задумацца. І ўдвая цешыць, што гэта ініцыявалі

# ЦЯБЕ РАЗУМЕЕ

украінцы, палякі, літоўцы, грузіны, латышы, што гэта была наша супольная рэгіянальная ініцыятыва.

Ю.А.: Я не пагаджуся, што наш пратэст ні да каго ня дойдзе. Дойдзе, упэўнены, прынамсі, у выглядзе аналітычных запісак. Такіх пратэстаў было няшмат. Кожны зь іх мае вагу. Раней пратэсты супраць вайны ў Чачэніі паступалі найчасцей у выглядзе нейкіх дыпляматычных рэкамэндацыяў, пажаданьняў міжнародных фінансавых арганізацыяў. Цяпер пісьменьнікі, людзі незаангажаваныя, непалітычныя, якія падкрэсьліваюць сваю незалежнасьць, пратэстуюць. Я на месцы ўладаў Расеі прыслухаўся б да голасу пісьменьнікаў Эўропы.

Пісьменьнікі могуць многа зьмяніць у сфэрах, якія беспасярэдне ад літаратуры не залежаць. Я дужа сумняваўся ў дзейснасьці такое арганізацыі, як ПЭН-клюб. Мяне летась запрасілі ў Варшаву на апошні ў гэтым стагодзьдзі ягоны кангрэс. Я быў настроены страшэнна скептычна, з сумам назіраў, як фармальна галасуюць ягоныя ўдзельнікі, падымаюць свае мандаты, слухаў гэтыя фармальныя заклінаньні пра свабоду слова, сумленьня, але ўсю маю крытычнасьць пераважыў той факт, што ў сувязі з правядзеньнем гэтага кангрэсу, дзякуючы настаяньню польскага міністра замежных справаў, у Віетнаме вызвалілі дысыдэнта, які перад тым правёў 18 гадоў у турме — і ён быў госьцем гэтага кангрэсу. Дык значыць, нават на ўзроўні канкрэтных справаў можна нешта рабіць. Гэта і ёсьць для мяне адказ на пытаньне пра межы заангажаванасьці. Фактычна іх няма. Я ня веру ў пісьменьніка, які не цікавіцца палітыкай. Ён можа ня браць у ёй удзелу беспасярэдне. Але так ці інакш усё, што ты пішаш, ужо нейкай мерай мае дачыненьне да яе.

Кацярына Батанава: Дэклярацыя супраць чачэнскай вайны, якую мы падпісалі, зламала сьцяну між пісьменьнікамі з Заходняй і Цэнтральнай Эўропы, што адчувалася ў першай частцы падарожжа. Я ня думаю, што тыя зь пісьменьнікаў, што не падпісалі Дэклярацыі, былі сапраўды нязгодныя, як яны казалі, з адным словам у ёй ці зь нейкай адной з фармулёвак у шапцы. Для большасьці зь іх гэта было праз адсутнасьць уласнай пазыцыі па гэтым пытаньні. Мяне гэта не пячэ асабіста... Або — мяне гэта закранае, але я баюся быць палітычна некарэктным... Мне жывецца спакойна, я вядомы пісьменьнік, і я не хачу ні ў што ўмешвацца, каб нікога не абразіць... Там недзе існуе мяжа Эўропы, і хай яна існуе — мо дзе за Нямеччынай яна праходзіць, мо за Польшчай, і хай праходзіць...

А.В.: Сярод тых, хто не падпісаў ліста, было многа тых, хто адчувае сымпатыі да Расеі і расейскай культуры. Для іх краіна, якая дала сьвету Дастаеўскага і Талстоя, мае права на ўсё.

## Адказнасьць расейскай культуры

**— Цяперашняе маўчаньне расейскай культуры, яе негалосная згода з крывавай пацыфікацыяй Чачэніі — гэта што, працяг расейскай культурнай традыцыі ці разрыў зь ёю? Дастаеўскі і Талстой — як бы яны паставіліся да гэтай вайны?**

М.Р.: Бярдзяеў ускладаў адказнасьць за бальшавізм менавіта на расейскую інтэлігенцыю. Я б прадоўжыў гэтую думку. Мне здаецца, што расейская культура выхавала расейскі імпэрыялізм і расейскі нацыяналізм сёньняшняга дня. Адказваючы на пачатку нашай вандроўкі, у Мадрыдзе, таму самаму сп.Варламаву, я сказаў, што расейская культура ня толькі зрабіла ўнёсак у зруйнаваньне Бэрлінскага муру (на што ён рабіў націск), яна таксама паспрыяла пабудове гэтага муру, і ня толькі гэтага.

Рэакцыю Дастаеўскага і Талстоя на сёньняшнія падзеі няцяжка прадбачыць. Мы знаем, колькі ксэнафобіяў разьліта ў тэкстах Дастаеўскага, і знаем, што ён пісаў з нагоды аналягічных сучасных яму падзеяў, а таксама ведаем усю расейскую традыцыю яшчэ ад Пушкіна і ягонай сумнавядомага пасланьня «Паклёпнікам Расеі», дзе ён дужа пахвальна адгукаецца на прыдушэньне польскага паўстаньня. Талстой, які быў своеасаблівай постацьцю, хочацца верыць, застаўся б пацыфістам і ў гэтай сытуацыі. Увогуле ж расейская культура безумоўна адказная за той нарцысізм, што сфармаваўся ў расейскім грамадзтве, за тую бязьмерную амбітнасьць, за няўменьне засяродзіцца на ўнутраных праблемах, заўсёдная акцэнтаваньне праблемаў суседніх, нейкай глябальнай адказнасьці і глябальнага паклікання расейскага народу, хоць расейскі народ мае многа ўнутраных праблемаў, якія і трэ было б пачаць вырашаць.

А.Б.: Расейская культура перажывае балючы працэс новага атаесамленьня, яна пачынае ўсьведамляць страту імпэрскага статусу Расеі і статусу вялікай нацыі. І боль ад гэтай новай ідэнтыфікацыі выплёскваецца іншы раз вялікім гвалтам і брутальнасьцю, жорсткасьцю расейцаў, што ня хочуць мірыцца з новым сваім статусам у сьвеце. Украіна стасоўна Расеі дасягнула важнае рэчы — расейцы ў сваіх газэтах пішуць пра Ўкраіну як пра іншую рэальнасьць, якая ім не належыць. З праклёнамі, пратэстамі, але ўсё ж вызнаецца іншасьць Украіны. Гэта, на маю думку, і ёсьць галоўным дасягненьнем апошніх гадоў у нашых дачыненьнях.

## Прорва ў нашых вачах

**— Прорва між расейцамі і эўрапейцамі ў выніку такіх дыскусіяў, як сёньняшняя, большае ці меншае? Ці такія дыскусіі спрыяюць адчуваньню расейцамі супольнасьці трывогаў сваіх і ўсіхных ці, наадварот, умацоўваюць у расейцах пачуцьцё самоты, ізаляванасьці і крыўды на варожае атачэньне?**

К.Б.: Прорва існуе ў нашых вачах, ня ў іхных. Мы як творцы з посткаляніяльных краінаў бачым, наколькі адрозьніваецца Расея ад Эўропы. Але Захад — і тутака ня трэба мець ілюзіяў і цягнік гэта толькі яшчэ раз пацьвердзіў — глядзіць на Расею як на экзатычную краіну, але з захапленьнем. Гэта монстар, якім яны захапляліся, які паважалі. Многія ўдзельнікі Экспрэсу маюць левыя перакананьні, хоць не маюць левага досьведу, яны ідэалізуюць Расею, таму наіўна думаць, што тыя людзі, што не спазналі нагі Расеі на сваёй сьпіне, усьведамяць, што адбываецца ў Чачэніі і што можа адбыцца зь нейкім іншым суседам Расеі. Ясна, што існуе разрыў ува ўспрыманьні Расеі ў нашых вачах і ў вачах тых, хто ня мае ў сваім досьведзе расейскіх танкаў і расейскай рукі.

## Пісьменьнік — як пустэча

**— Большасьць заходніх пісьменьнікаў — зь лявіцы. А якія перакананьні большасьці літаратараў з Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы, што падарожнічаюць? Якую ідэалёгію спавядаеце вы?**



Эўгеніюс Алішанка: Пісьменьнік, па сутнасьці, іншая структура, чым палітык, які дакладна вызначыў, да якой партыі ён належыць, інтарэсы якой групы насельніцтва адстойвае. Пісьменьнік — гэта усеадбымная істота. Ён як пустэча — ён мусіць быць адкрыты сьвету, усяму, што адбываецца. У пісьменьніка мысьленьне не палітычнае, ён ня можа мысьліць катэгорыямі, што вось, калі мы ўвядзем войскі туды, дык там загіне дзесяць чалавек, а гэта лепш, чым калі мы не ўвядзем туды войскаў. Пісьменьнік мысьліць па-іншаму. Для яго кожнае жыцьцё — бясцэннае. Як пісьменьнікі мы мусім быць лева-правымі і гатовымі да ўсяго, што адбываецца. Наша пазыцыя мусіць быць дэканструктывісцкай. Мы павінны па магчымасьці разбураць тыя міты, што складваюцца. У выпадку Чачэніі мы супраць таго, каб складваліся міты, што выразна складваюцца ў расейскай інтэлігенцыі: напрыклад, міт помсты, адплаты.

Г.К.: Маё крэда — ня йдзі папярод натоўпу, ня йдзі ззаду натоўпу, ідзі побач з натоўпам і назірай, і назірай.

## Мая інтымная Эўропа

**— Вы кажаце пра існаваньне пэўнае цэнтральнаэўрапейскае прасторы. Кажаце, што ў Заходняй Эўропе пісьменьнікам цікавыя пісьменьнікі з сваіх краінаў і абыякавыя літаратары з суседніх краёў. А ўкраінцам баліць Чачэнія, беларусы перакладаюць славенцаў, літоўцы сочаць за польскімі падзеямі. Значыць, сапраўды існуе асобная культурная прастора на абшарах былой Рэчы Паспалітай, былых Аўстра-Вугорскай і Савецкай імпэрыяў. Якія шанцы на захаваньне гэтае прасторы?**

Ю.А.: Я ня ведаю, што прагназаваць. Гэтая ідэя была паддадзеная ў 90-я гады сур'ёзнаму выпрабаваньню, бо ў краінах Цэнтральнае Эўропы адбываліся розныя працэсы, краіны аказаліся ў розных вайскова-палітычных блёках. У зьвязку з геапалітычным ціскам ідэя ў сваім чыстым выглядзе на ўзроўні культурфілязофіі ў значнай ступені захісталася, то бок пад канец 90-х дыскусіі пра Цэнтральна-Ўсходнюю Эўропу ўжо выклікалі ў многіх скептычную ўсьмешку. Пра гэта столькі гаварылася, нагаварылі столькі дурніцаў, што і працягваць пра яе гаварыць было трошкі сьмешна. Пэрспэктывы гэтай ідэі — калі мець на ўвазе прастору ідэяў — зьвязаныя з пэрспэктываю далучэньня да гэтае прасторы новых тэрыторыяў. Беларуская і ўкраінская думка могуць вельмі шмат новага ўнесьці ў цэнтральнаўсходнеэўрапейскую ідэю і адпаведна прынесьці нешта новае для яе развіцця. Бо калі йдзецца пра палітычны выбар, дык зь ім усё больш-менш зразумела, але наступствы такога палітычнага выбару могуць быць непрадбачальнымі, і тутака ўласна паўстае гэтая прастора магчымасьці, прастора загадкавасьці будучыні, дзе, я ўпэўнены, гэтая ідэя набудзе нейкія іншыя вымярэньні, у першую чаргу, мабыць, усё-ткі вымярэньне індывідуальнае. Мой самы апошні досьвед — напярод зададзеная тэма для новай, супольнай з польскім пісьменьнікам Анджэем Стасюкам кнігі, што будзе складацца з двух эсэ пра Цэнтральна-Ўсходнюю Эўропу. Тэма быццам бы ўжо набіла аскоміну, пра гэтую тэму ўжо і гаварыць нібы сорамна. Мы не змаўляліся зь ім, як мы будзем пісаць, толькі дамовіліся пра памер тэксту. Але аказалася, што абодва эсэ лучыць пэўны глыбака індывідуальны і нават інтымны падыход да тэмы. Ты паўстаеш перад сытуацыяй, калі ты проста павінен сказаць нешта найважнейшае пра сябе самога, і сказаць таму, хто здольны цябе зразумець. Вось два ключавыя моманты для нашага існаваньня тутака ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе: магчымасьць гаварыць надзвычайна важныя рэчы і магчымасьць гаварыць тым, хто цябе разумее.

*Прэзыдэнту Расейскай Фэдэрацыі*
*Спадару Пуціну У.У.*
*ад эўрапейскіх пісьменьнікаў,*
*удзельнікаў міжнароднага праекту*
*«Літаратурны Экспрэс Эўропа-2000»*

*7 ліпеня 2000 году*
*Масква, Расея*

*Вельмішаноўны спадару Прэзыдэнце,*

*мы, група эўрапейскіх пісьменьнікаў, удзельнікаў міжнароднага праекту «Літаратурны Экспрэс Эўропа-2000», глыбака занепакоеныя ваеннымі дзеяньнямі, якія ўзброеныя сілы Вашай краіны вядуць на тэрыторыі маленькай аўтаномнай рэспублікі Ічкерыя. Фактычна, на падставе «барацьбы з тэрарыстамі», ажыцьцяўляецца масавае забойства мірных жыхароў, руйнаваньне чачэнскіх гарадоў і вёсак, вынішчэньне цэлага народу, які ніколі добраахвотна да Расеі не далучаўся.*

*Мы заклікаем Вас, спадару Прэзыдэнце, праявіць развахлівасьць і дальнабачнасьць, а галоўнае — чалавечнасьць, годныя лідэра вялікай краіны, і ўжыць увесь Ваш палітычны ўплыў, усе даступныя Вам дыпляматычныя сродкі, каб спыніць ганебную вайну і вырашыць канфлікт шляхам перамоваў. Бо вайна нясе сьмерць і разбурэньні ня толькі чачэнцам, але й самім расейцам. Яна дэмаралізуе армію, абуджаючы ў вайскоўцах самыя паскудныя жывёльныя інстынкты, правакуе разгул псэўдапатрыятычнай ксэнафобіі ў расейскім грамадзтве, кампрамэтуе Вашу краіну ўвачу сусьветнай грамадзкай думкі.*

*Хочам верыць, што ў XXI стагодзьдзе Расея ўвойдзе не абцяжаранаю імпэрскімі амбіцыямі і анахранічным жаданьнем навязваць сваю волю іншым народам.*

*З павагай,*
*эўрапейскія пісьменьнікі*

**Томаш Ражыцкі**
**Яцэк Падсядла**
**Яцэк Пацоха**
**Юры Андруховіч**
**Кацярына Батанава**
**Андрый Бондар**
**Мікола Рабчук**
**Лаўрынас Каткус**
**Геркус Кінчус**
**Эўгеніюс Алішанка**
**Чынгіз Абдулаеў**
**Леа Туар**
**Джэсыка Фальцон**
**Леча Бакрадзэ**
**Віталь Чабану**
**Марыс Чаклайс**
**Глен Пэтэрсан**
**Андрэй Федарэнка**
**Дубраўка Угрэсіч**
**Алеш Чар**
**Жак Жуэ**
**і яшчэ 41 подпіс**

# МОВА-2000

## НАМУСЬНІК

Замест «намордніка» ёсьцека ў нашай гаворцы народнай слова «намусьнік».

Наколькі мне вядома, гэтая назва жыве паўсюдна, дзе яшчэ не развучыліся гаварыць. Апроч хіба Менску...

Аляксей Шчагрыковіч, Віцебск

## НАМЫСЬНІК

Прапаную зьмяніць слова «намордник» на беларускі адпаведнік — «напысьнік». А яшчэ я вычытаў у тралікавым наказьніку слова «намысьнік».

Такім чынам, прапаную два адпаведнікі слову «намордник», гэта — «напысьнік» і «намысьнік».

Жаўрук Мікола, Менск

## НАМЫЗЬНІК

У нас на Капыльшчыне «намордник» завецца «намызьнікам», бо ў сабакі — «мыза».

Яўген Клішэвіч, Капыльшчына

## НАПЫСЬНІК

Каганец і напысьнік

Па-польску намордник — kaganiec, але мне ня вельмі спадабаўся гэты варыянт.

Напрысьнік — добрая прапанова. Але калі «намордник» надзяваецца на сабачую пысу, дык, здаецца, лепей назваць яго напысьнік. Гэта мой варыянт.

Aleks, Менск

## НАЛЫГАЧ

Хачу далучыцца да «мазгавога штурму» ў пошуках заменьніка слову «намордник». Напачатку прыйшоў на розум «налычнік». Яшчэ ў дзяцінстве, бывала, ем булён, дык жыжку пасёрбаю, а гушча застаецца, і бабка бурчыць: «А хіба табе налычнік надзелі?» Так што слова гэтае існуе здаўна (бабка мая, вечная ёй памяць, родам з 1895 году). Праўда, у нашым выпадку наўрад ці яно падыходзіць, бо стасуецца болей з жывёламі, што маюць лыч, чатырохногімі ці дзьвюхногімі. Як калька з расейскай, просіцца на язык «напысьнік», але менавіта гэтай сваёй калькаванасьцю і адпужвае, здаецца нейкім неўласьцівым нашай мове. А мо й нічога? А вось аднекуль з падсьвядомасьці ўсплыло слова «налыгач». Ці чула, ці вычытала, але дзесьці я яго сустракала, толькі вось ня памятаю значэньня. Але само гучаньне мне падабаецца, узьнікаюць асацыяцыі менавіта адпаведныя гэтаму «намордніку». Таму й прапаную разглядзець «налыгач» у якасьці варыянту. Калі ж яго сапраўднае значэньне далёка ад таго, што патрабуецца — дык выбачайце, мо нехта прапануе лепшае.

І яшчэ хачу расказаць дзьве рэчы ў кантэксьце «Мовы-2000». Першая — на тэму «рэфэрэндумак». Як едзеш электрычкаю з Бабруйску на Асіповічы, мінаеш прыпынак Брадзішча. Дык вось, яшчэ гадоў пяць таму зьявілася шыльда, на якой прыгожымі літарамі выведзена «Брадіщэ». Далібог, праўда. Мо ўжо яе і садралі (даўно ня езьдзіла), але весела доўга. Гэта, бадай, самы вялікі з «пэрлаў» чыгуначнай пісьменнасьці.

А другі выпадак, што запаў у памяць, якраз на тэму «калькі». Мы ўсё цьвічым горапераккладчыкаў з расейскай, якія толькі зьмяняюць правапіс на беларускі, а ўсё астатняе не чапаюць. Дык вось, часам бывае й адваротная зьява: нібыта па-расейску гаворка, а чысты масквіч і не зразумеў бы. Неяк слухаю «Новае радыё Магілёў», сакочуць маладыя вядучыя ў чарговай забаўлянцы, і тут праскоквае: «как говорится, готовь летом сани, а зимой — колёса». Расеец бы ня ўехаў, прычым тут наркотыкі да зімы. Але аўдыторыя зразумела правільна — беларус у кожным сядзіць мацней, чым здаецца. І калі такі наш «русскоязычный» трапляе ў Расею, дык даведваецца, што гаворыць ён няправільна і міжволі апынаецца ў становішчы таго вясковага хлопца, зь якога сам кпіў за гаворку.

Сьвятлана Пячкова, Бабрунск

*АД РЭДАКЦЫІ. Такім чынам, першыя і самыя простыя прапановы выказаныя: намусьнік, намысьнік, напысьнік, намызьнік і налычнік, — усе гэтыя словы так ці інакш паўтараюць словаўтваральную формулу расейскага «намордніка». Толькі што на «морду» ў беларускай мове варынтаў багата. Асабней стаіць «налыгач». Тым ня менш, заклікаем нашых чытачоў да працягу пошуку. Асабліва цікава было б пачуць думку гісторыкаў. У нас у рэдакцыі няма сумневу, што ў колішнія часы, можа быць, яшчэ ў Полацкую або ВКЛаўскую эпоху такая штука — «намордник» — існавала і мела характэрную беларускую назву. Зрэшты, і наватворы будзем вітаць. Пішыце, няхай будзе ў нас больш выбар.*

# НАШЫ Ў ГОРАДЗЕ

## Лісты чытачоў

*Добры дзень, «Наша Ніва». Піша табе твой чытач з 1991-га году, ад самага тваёго першага адноўленага нумару. Я ніколі не пісаў табе, толькі чытаў. Але пасьля артыкула Зьмітра Бартосіка нібы вярнуўся на дзесяць гадоў назад. У гады баявога юнацтва, так бы мовіць. Тады мне таксама здавалася, што маю чыстую мову радыя будуць чуць паўсюль і заўсёды. А дзе ня радыя, дык перавыхаваем. Наколькі ж мяне тады хапіла? Не нашмат. Колькі ні намагаўся прабіць гэтую сьцяну варожасьці нашага ўродлівага люду да свайго ж, вельмі хутка зразумеў — бескарысна. Здароўя ня хопіць, і марнаваць каштоўныя хвіліны жыцьця й нэрвы на перавыхаваньне агрэсіўных гамадрылаў... Навошта? Ці ня лепш пачытаць гэтым часам любімую газэту? За замоўленай «чашечкой кофе»? Мова тым часам нікуды не падзенецца й не загіне. Не хвалюйцеся.*

*Паверце, спадар Бартосік, мне вельмі сымпатычная Вашая ідэя. Плаціць грошы тым, хто адгукаецца. Але я ўжо наперад бачу, што, на жаль, нічога зь яе не атрымаецца. Па першае, занадта мала тых, хто яшчэ спрабуе нешта выціснуць з сябе беларускае. Белай варонай быць няўтульна. Таму я даўно не асуджаю людзей, беларускамоўных адно ў закрытых асяродках. Гэта ўсяго толькі здаровая рэакцыя абароны таго, што табе дорага. Наколькі мала ў нас гераў, Вы адчуеце адразу па той мізэрнай колькасьці лістоў, што прыйдуць (калі ўвогуле прыйдуць) на адрас Вашай рубрыкі. Па-другое, занадта мала ў тых нешматлікіх людзей грошай, каб «стварыць надвор'е». «Ракаўскія бровары» й Макдональдсы ім не па кішэні. А беларусізаваць студэнцкія сталоўкі... Нецікава. І, нарэшце, па-трэцяе, няма ў Беларусі таго шырокага поля прыватных установаў, дзе магла б мець сэнс Вашая ідэя наданьня беларускаму слову ролі эканамічнага фактару. На заробках «зьверабабаў» Вашае неаданьне плаціць ніяк не адаб'еца. Ну а цяпер адрас, дзе Вам, спадар Бартосік, спадабаецца. Рэкамэндую кавярню «Батлейках» каля кінатэатра «Октябрь» у Менску. Дзе беларускамоўнае мэню. Не таму, што гаспадар нацыяналіст. А таму, што кавярня пакуль яшчэ дзяржаўная. Нацыянальная па форме, але й сацыялістычная па зьмесьце. Зрэшты, есьці можна, і кошты людзкія. А калі жадаецца чагосьці новага й капіталістычнага, можаце зазірнуць на беларускую шыльду «Стары млын» на Круглай плошчы. Рэкамэндую адкушаць страву пад назваю «Россия вас не забудет». Чытаньне мэню, дарэчы, Вам прынясе незвычайную асалоду. Толькі не шукайце там якой каклеты «Радзівілаўскай» ці кактэйля «Жыве Беларусь!». І не гаварыце з афіцыянткамі па-беларуску. Вы есьці прыйшлі, ці «мітынг устраіваць?»*

*Жадаю посьпехаў і смачна есьці.*

Вітаўт, 39 гадоў, Менск.

***

*Некаторыя артыкулы вашыя выклікаюць у мяне буру эмоцыяў. Гэтак здарылася, калі мне ў рукі трапіў № 24 ад 4 ліпеня. Закрануў мяне Зьміцер Бартосік зь яганым «Нашы ў горадзе», дзе ён разважае пра стаўленьне да беларускамоўных на вуліцы. Такое было ўражаньне, што аўтар сьпісаў мае думкі — настолькі ўсё гэта было мне блізка і знаёма.*

*Мяркую, ня варта пісаць пра выпадкі, калі мае звароты па-беларуску да людзей на вуліцы выклікалі ў тых «нездаровую рэакцыю»: даваліся б напісаць сваю падрабязную біяграфію. Кожны носьбіт беларускага слова штодзень сустракаецца з такой нездаровай рэакцыяй, я тут не выключэньне. У адказ на пытаньне альбо просьбу па-беларуску можна пачуць рознае, але прыкладна аднолькавага зьместу: ад «Что-что, повторите еще раз, не понимаю» (найчасьцей) да «Ты чё, офонарел, па-русски сказать не можешь?» (на шчасьце, ня так часта). Вось і парадокс: калі ў Беларусі размаўляеш па-беларуску, значыць — «офонарел». Сьмех ды сьлёзы. Сьмех, бо калі сказаць такое якому эўрапейцу — доўга сьмяяўся б і ніколі б не паверыў, а сьлёзы, бо плакаць хочацца, калі падумаеш, што гэта праўда і адбываецца ўсё гэта ў тваёй роднай краіне. Заўсёды вельмі дзіўлюся той непрымальнасьці і варожасьці, зь якой у Беларусі ставяцца да беларускамоўных.*

*Наколькі я памятаю (а памяць у мяне добрая), у крамах, на базарах ды падобных гандлёвых месцах па-беларуску мне адказалі ўсяго колькі разоў — па пальцах можна палічыць. Магу нават месца назваць, дзе часьцей за ўсё гэта адбывалася — гарадзенскі рэчавы рынак, дзе я часам купляю некаторыя рэчы і дзе вельмі рэдка, але ж магчыма адказы на свае пытаньні пачуць на роднай мове. У гэтых выпадках звычайна я з прыемным пачуцьцём і набытай рэччу крочу далей, а прадавец застаецца з маімі грашыма.*

*Тут хацелася б даць параду ўсім гандлярам і прадпрымальнікам: калі кліент нешта ў вас пытаецца па-беларуску, адкажыце яму таксама, і будзьце пэўныя, што калі яму тое ж спатрэбіцца яшчэ раз, ён прыйдзе менавіта да вас, каб ізноў пачуць адказ на роднай мове.*

Зьміцер Мацькевічык, Горадня

*О, Радзіма...*

*Прачытаў Ваш артыкул «Нашы ў горадзе» і стала неяк самотна на душы, а таксама зайздросна. Вунь у Вас у горадзе дзе-нідзе, а ёсьць куточкі, дзе можна адчуць сябе на Радзіме. А вось у нас у Рэчыцы такога няма. Нават і шыльды на крамах, якія былі напісаныя па-беларуску, даўно паздымалі. Усе хочуць быць «гарадзкімі», «культурнымі».*

*Але адна шыльдачка ўсё ж такі засталася, мабыць, рукі ў «гарадзкіх» да яе не дайшлі. А знаходзіцца яна ў сталоўцы каля Чыгуначнага пераезду. Я неяк туды завітаў, каб трохі падсілкавацца. Чыстая такая, утульная сталоўка. Сеў я, значыцца, за стол, а насупраць мяне — шыльдачка: «Частуйцеся, калі ласка» і ўсё. І гэтак мне стала прыемна, а ежа такая смачная...*

*А што тычыцца слова «намордник», дык па-беларуску яму будзе адпавядаць слова «намусьнік». Калісьці ў дзяцінстве мы так казалі.*

Анатоль, Рэчыца



календар

**16 ліпеня 1925 г.** у Багдадзе адкрылася першае паседжаньне іракскага парлямэнту. Ірак мусіў пайсьці шляхам дэмакратыі. Праз некалькі дзесяцігодзьдзяў сацыяліст-фундамэнталіст Садам Хусэйн перакрэсьліў усё... Ірак стаў адной з найбяднейшых краінаў сьвету, якому ня можа дапамагчы ніякі новы Фрэд К'юні. А калісь Багдад быў ці не галоўным турыстычным раем на Блізкім Усходзе. Як лёгка ўсё адразу страціць!

**17—19 ліпеня 1975 г.** адбылася стыкоўка двух касьмічных караблёў: амэрыканскага *Apollo* і савецкага «Саюзу». Гэткае сяброўства на найвышэйшым узроўні паспрыяла паляпшэньню ўзаемадачыненьняў паміж дзьвюма антаганістычнымі дзяржавамі, а таксама зрабіла падарунак курцам у выглядзе цыгарэтаў «Саюз-Апалён» зь іх непаўторным тэрмаядравым смакам.

**20 ліпеня 1950 г.** сэнат ЗША ўхваліў даклад адмыслова створанага камітэту, які абвергнуў сьцьверджаньне сэнатара Макарці, што ў Дзяржпэпартамэнце працуе плойма камуністаў. (У лютым 1950 г. судзьдзя Джо Макарці выступіў на сходзе ўва Ўілінгу, штат Заходняя Вірджынія, з прамовай, у якой запэўніў прысутных, што 205 вядомых камуністаў працуюць у Дзяржпэпартамэнце). Магчыма, выказваньням Макарці ніхто не надаў бы ўвагі, каб не Карэйская вайна. Макартызм закрануў усе сфэры жыцьця, гэта было сапраўднае паляваньне на ведзьмаў. Камуністаў шукалі паўсюль, ад унівэрсытэтаў да Галівуду. Гістэрыя зацягнулася на пару гадоў. Адным з тых, хто цярпеў ад гэтага быў і... Джо Макарці. Ён скалануўся ад жаху, калі пабачыў, які размах набрала кампанія. Робэрт Кенэдзі пісаў: *«Макарці, зганьбіўшы кагосьці, адчуваў сябе вельмі вінаватым і пакутаваў ад гэтага... І ён не чакаў такіх вынікаў».*

**У 1800 г.** нарадзіўся беларускі лекар Ізыдар Нагумовіч, малодшы брат іншага вядомага лекара, Лявона Нагумовіча. Ізыдар скончыў Віленскі ўнівэрсытэт, там абараніў доктарскую дысэртацыю па мэдыцыне, і быў накіраваны ў Жмудзь служыць лекарам у грэнадзёрскі полк. За ўдзел у паўстаньня 1830 г. ён быў звольнены і пасяліўся ў Ваўкавыскім павеце. У 1833 г. на Гарадзеншчыне апынуўся Міхал Валовіч, былы паўстанец 1830 г., які па заданьні эміграцкіх патрыятычных таварыстваў таемна перабраўся на радзіму з мэтай разгортваньня антырасейскай партызанскай барацьбы. У лесе Валовіч захварэў, і Нагумовіч, у адпаведнасьці з сваім абавязкам мэдыка, вылечыў яго, не пабаяўшыся

рэпрэсіяў з боку ўладаў. Перасьледам Валовіча і ягоных паплечнікаў кіраваў гарадзенскі грамадзянскі генэрал-губэрнатар Міхаіл Мураўёў, які праз 30 гадоў атрымае мянушку «вешальнік». Валовіча разам з паплечнікамі арыштавалі. Сярод арыштаваных быў і Ізыдар Нагумовіч. Яго абвінавацілі ў тым, што ён лячыў «дывэрсанта» і не паведаміў у адпаведныя карныя структуры. Яму ўзгадалі ўсе старыя антырасейскія выказваньні, і Нагумовіч быў прысуджаны да сьмяротнага пакараньня цераз чацьвертаваньне, самай жахлівай і пакутніцкай сьмерці. Толькі заступніцтва брата Лявона, вельмі ўплывовага тады ў Расеі чалавека (ня кожнаму даваяюць псыхіятрычны агляд Лермантава!), выратавала ад сьмерці. Ізыдар быў высланы ў Вятку пад нагляд паліцыі. Праз некаторы час ён вярнуўся на Гарадзеншчыну, а яшчэ пазьней пасяліўся ў Друскеніках, тады параўнальна маладым курорце. У 1841 г. ён выдаў па-француску і расейску сваю навуковую працу «Спосаб лекаваньня мінэральнымі водамі ў Друскеніках», дзе абгрунтаваў, якія хваробы і як можна лячыць зь мясцовых мінэральных крыніц. Але пасьля Вяткі Ізыдар Нагумовіч, на жаль, доўга не пражыў. На 42-м годзе жыцьцё гэтага незвычайнага чалавека скончыла свой бег.

**У 1925 г.** амэрыканскі аўтамабільны магнат і буйны прамысловец Генры Форд




арганізоўвае кампанію, накіраваную супраць папулярызацыі джазу. Ён фундуе некалькі фэстываляў народных танцаў, нібы характэрных для «сапраўднай» амэрыканскай культуры ў супрацьвагу джазу. Генры Форд быў вялікім арыгіналам у сваім жыцьці. Ну хто, напрыклад, ня ведае ягонага выказваньня: «*Колер машыны можа быць любы пры ўмове, што гэты колер чорны*». Форд быў таксама найвялікшым антысэмітам і расістам, за што атрымаў адмысловую ўзнагароду ад Адольфа Гітлера. Праўда, гэтыя «дзівацтвы» Генры Форда ня йдуць ні ў якое параўнаньне зь ягонымі дасягненьнямі на карысьць амэрыканскай дзяржавы і аўтамабільнага бізнэсу.

Кампанія «Форд» 19 чэрвеня выйшла з сумеснага прадпрыемства зь беларускім урадам, якое яна мела ў Абчаку. Цяпер чакаецца, што яе там заменіць брытанскі інвэстар — кампанія Louis Sandreson. Пакуль жа работнікі адпачываюць.

**Алег Гардзіенка**

# ЗГУБЛЕНЫЯ ЛІСТЫ

## *15 ліпеня споўнілася 100 гадоў Уладзіміру Дубоўку*

У старой менскай кватэры, сярод безьлічы кніжных шафаў і паліц я сядзеў у сваёй, нашмат старэйшай за мяне сяброўкі, кінэматаграфісткі Ірыны Пісьменнай, і шукаў разам зь ёю некалькі старых лістоў з Масквы, лістоў, што былі напісаныя напачатку шасьцідзясятых, калі маёй старэйшай сяброўцы было столькі, колькі цяпер мне. І былі тыя лісты ад чалавека, маё першае завочнае знаёмства зь якім адбылося праз Шэкспіра. Я з прыемнасьцю чытаў санэты ангельскага клясыка ў перакладзе Ўладзімера Дубоўкі. Не задумваючыся над доляю асабістага ў тых перакладах.

Каб мог ты вечна быць самім сабою!

Але жывеш на сьвеце да пары.

Пакуль ня стане сьмерць перад табою,

Сабе падобны вобраз ты твары.

Зь ягоным вобразам я пазнаёміўся крыху пазьней. Убачыў ягоны здымак. З фотакарткі глядзеў зусім не савецкі беларускі пісьменьнік. Не было ў ім гэткай непрыхаванай сытасьці. Ён нагадваў хутчэй героя Джэка Лёндана, гэткага сівабародага вандроўніка. Зрэшты, павандравацца гэтаму чалавеку сапраўды выпала нямала й не па сваёй ахвоце. І вобраз ад гэтага толькі выйграваў. Пакуль мы шукалі ягоныя лісты, спадарыня Ірына, якую лёс выпадкова пазнаёміў з паэтам, дзялілася сваімі ўспамінамі.

— *Гэта былі гады, калі вярталіся рэабілітаваныя. Канец пяцідзясятых. Я тады нічога ня ведала пра Дубоўку, што ёсьць такі пісьменьнік. І аднойчы — гэта было ў Каралішчавічах, у Доме творчасьці пісьменьнікаў, там мы летам адпачывалі — аднойчы я прачнулась вельмі рана, гадзінаў у шэсьць. І пайшла. І тут перада мною адкрылася такая дзіўная карцінка. У чырвоных прамянях сонца я ўбачыла чалавека, які быў да пояса разьдзеты, з аграмадным молатам у руках. Ён сек камяні. Я спынілася, як зачараваная. Глядзела й не магла зразумець, што адбываецца. Ня ведаю, колькі так стаяла. Але потым гэты чалавек падыйшоў да мяне, і сказаў — я запомніла гэта на ўсё жыцьцё — «Толькі ў прыродзе бывае так цудоўна, калі блакітнае на зялёным». Я зразумела, што толькі ў гэтым месцы жылі такія блакітныя сарокі. І гэтыя блакітныя сарокі сядзелі на зялёных елках. Я адказала: «Не. Вельмі прыгожа, калі чалавек сячэ камяні». Мы засьмяяліся й пазнаёміліся. Гэта быў Дубоўка. Вельмі прыгожы чалавек. Зь сівой барадой, але малады, мускулісты...*

Але вось загадка! Як толькі аднойчы я паспрабаваў пазнаёміцца з паэзіяй Дубоўкі бліжэй, дык адразу ж вобраз той пачаў разбурацца. У сярэдзіне дваццатых малады паэт напісаў верш, які сёньня стаўся ледзь не народнай песьняй. «О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет, У ветры дзікім не загінеш, Чарнобылем не зарасьцеш». І навошта аўтару было праз трыццаць гадоў перайначваць уласную песьню? На «Беларусь, лясную ружу, што да камунізму крокам мужным прakладае вечны сьлед». Няўжо аўтар так верыў у той камунізм, што вырашыў паламаць уласную песьню? Нават у вершах аб Сібіры ён ня мог абысьці той камунізм бокам. Таму я й хацеў зазірнуць у сьпісаныя ягонаю рукою аркушы лістоў, каб знайсьці менавіта там хоць намёк, хоць кавалачак ягонае веры. Але лісты так і не знаходзіліся...

— Аднойчы вечарам прыехалі да яго пісьменьнікі — Глебка, Броўка, Кандрат Крапіва й яшчэ нехта. Гэта былі першыя дні, як ён вярнуўся ў Беларусь зь лягера. З пасяленьняў. Яны прыйшлі да яго, каб выказаць яму сваю пашану. Я бачыла здаля, які твар быў у Дубоўкі, і я зразумела, што яму гэта ня вельмі прыемна — іхны прыезд. Ён мне не расказваў, пра што яны гаварылі. Я й не пыталася. Але ён мне сказаў, што яны былі датычныя, што яго, маладога чалавека, які падаваў надзеі і ўжо меў імя, пасадзілі. Відаць, ён ведаў, хто зь іх быў датычны да гэтага. А, можа, усе разам, ня ведаю. Але такую фразу ён сказаў: Ён сказаў: «Яны прыехалі папрасіць мяне, каб я даў ім апошнюю паэму. Яны хочуць яе надрукаваць». Я спыталася: «Вы далі?» «Не, — сказаў ён, — навошта? Я ім сказаў, што я не пісаў паэм, бо ў мяне не было паперы».

Якая кінэматаграфічная сцэна! Мне згадаўся падобны фрагмэнт з Шукшынскай «Каліны краснай». Заляўрэачаныя й распаўнелыя, у добрых гарнітурах і гальштуках, на машыне прыязджаюць былыя сябры да сябрука, які толькі што выйшаў зь няволі. Каб падтрымаць маральна... І так не кладуцца ў гэты сюжэт Дубоўкавы панэгірыкі камунізму з партыяй. Няўжо ўсё толькі дзеля таго, каб яшчэ раз перастрахавацца?..

— *Потым я атрымала ад яго нямнога, два ці тры лісты. А потым мне сказалі, што ён цяжка хварэе, і наогул ён, мне здаецца, больш не хацеў прыяжджаць сюды, у Беларусь. Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што ў яго ў душы была незалечная рана ці што... Крыўда...*

Калі ён быў у лагеры, у яго на фронце загінуў сын. Гэта немагчыма сабе ўявіць. Ён у лягеры, ён «вораг народа». А сын на фронце памірае за ягоную несвабоду...

У лістах... Ён прыслаў мне пісьмо чыста пабытовага характару. Там не было высокіх матэрыяў. Ён нічога не пісаў пра сваю творчасьць. Ён пісаў, як наладжваецца ягоны побыт. Была нейкая размова пра кватэру. Ён пытаўся, што я раблю, што я пішу. Ён ведаў, што я пачынала займацца журналістыкай. Суцяшаў неяк мяне. Такія вельмі хатнія, вельмі добрыя лісты. Ён шмат гаварыў пра тое, што было ў маім веку, калі яго арыштавалі. І што тады ў яго было столькі плянаў... І што, ён спадзяецца, што ў мяне таксама ёсьць пляны. І што маё жыцьцё складзецца лепш. Запрашаў у Маскву. Я зьбіралася. Але ня памятаю, што мне перашкодзіла тады. Не паехала. І потым вельмі шкадавала. Калі я даведалася, што яго ня стала. Для мяне гэта была вялікая страта. Я ня ведаю, чаму тры тыдні былі такімі важнымі ў маім жыцьці... Відаць, нешта запаўняла мяне.

Мы так і не знайшлі тых лістоў з Масквы. А было б цікава пачытаць стары ліст пра новую кватэру. Няўдзячная ўсё ж гэта справа — судзіць ці апраўдваць паэта, які, хутчэй за ўсё, шчыра намагаўся пранікнуцца сваім часам зь ягонымі дасягненьнямі й радасьцямі. Мы ня вольныя абіраць сабе часы. А тым больш мадэляваць — што было б з Шэкспірам, калі б ён нарадзіўся ў пачатку дваццатага стагодзьдзя дзе-небудзь пад Паставамі...

**Зьміцер Бартосік**

# ШУКЕЛОЙЦЬ

Антон Шукелойць нарадзіўся 19 ліпеня 1915 году ў сям'і Антона і Бэнэдэты зь Пецюкевічаў у вёсцы Якелеўшчына Жупранскай парафіі Ашмянскага павету Віленскай губэрні. Бацька ягоны меў гаспадарку і гандляваў лесам. У 1939 годзе Антон закончыў аддзяленьне славянскай філялёгіі і этнаграфіі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Быўшы вучнем гімназіі, належаў да беларускага гуртку сацыялістычнай моладзі, якім кіраваў ведамы адвакат Аляксандар Барановіч, а ў часе ўнівэрсытэцкіх студыяў — да групы студэнтаў, якая выдавала часапіс беларускай сацыялістычнай думкі «Золак», ідэалягічна набліжаны да эсэраў. Ад 1940 году быў загадчыкам аддзелу асьветы гарадзкой управы ў Ашмяне. На другі дзень нямецка-савецкай вайны яго арыштавала НКВД. Вызваліўся з турмы ў выніку налёту нямецкай авіяцыі. Ад 1944 году — на эміграцыі ў Нямеччыне, ЗША. Працаваў таваразнаўцам пры інстытуце вытворчасьці моды і ў краме вопраткі *Orbakh*.

Браў ён чынны ўдзел ува ўсіх пачынаньнях беларускай дыяспары, стаўся яе сапраўдным сымбалем. Як некалі ўсе эмігранты ў Злучаныя Штаты праходзілі праз браму на высьпе Эліс, гэтак усе эмігранты і госьці зь Беларусі праходзяць праз добразычлівыя і разумныя рукі спадара Антона Шукелойця.

Здароўя Вам, спадару, і нястомнасьці!

**Лявон Юрэвіч**



# А Ў ПОЛІ...

Віктар Шніп

Мне гадоў пяць. Яшчэ месцамі ляжыць сьнег, а ўжо гусенічны трактар, які, відаць, адзіны ў калгасе, арэ поле. Трактарыст, заўважыўшы мяне, спыняецца і кліча ў кабіну. Трактар раве і трасецца, як шалёны, а я сяджу ў хлопца на каленях і гляджу на дарогу, па якой ідуць дзяўчаты і крычаць: «Пракаці нас, Пятруша, на трактары!..»

З бабуляй Ганнай хадзіў на могілкі ў Крывічы, дзе пахаваны дзед Міхась. Калі ішлі дахаты, нас у полі дагнала навальніца. Я хацеў бегчы, але бабуля сказала: «Унучак, не бяжы па полі. Бог ведае, куды мы хадзілі з табой, таму ідзі спакойна...»

Мама з бабуляй Параскай сярпамі жнуць калгаснае жыта, бацька косіць, мой малодшы гадавалы брат сьпіць сярод снапоў, а я спрабую ўсім дапамагаць. Побач жнуць суседзі. Поле вялікае, і на ім у некалькіх месцах сярод збожжа віднеюцца яблыні, ігрушы і сьлівы. Бацька расказвае, што яны засталіся ад хутароў, і паказвае, дзе быў сад майго дзеда. І я іду па жыце ў сад сярод жыта, і ніхто ня бачыць мяне...

Прыйшоўшы са школы, вечарам сяджу зь дзедам на лаўцы. Распытваюся, дзе што было раней. Пытаюся, што там за полем і лесам. «Там Польшча...» — адказвае дзед, і я ўжо не магу доўга заснуць, баючыся. што палякі пяройдуць мяжу і пачнецца вайна.

Ганяць у поле каровы са сваімі аднагодкамі я не люблю. Трэба рана прачынацца, а пасьля цэлы дзень сядзець у полі, паглядаць на гадзіньнік і ўвесь час быць гатовым абараніць сябе ад хлопцаў, якія абавязкова паспрабуюць камандаваць табой, як сабакам. Цяпер у вёсцы кароваў няма, і ў поле асабліва няма каму і куды ганяць. Да ўсяго праз поле, дзе я пасьвіў каровы, ужо некалькі гадоў як пракапаная глыбокая канава — зьбіраліся правесьці газ у суседнюю вёску і не правялі. І канава ў полі, як трэшчына на тым жыцьці, у якім мне ніколі ўжо ня жыць...

Кожны год у вёску з гораду прысылаюць студэнтаў на бульбу. І кожны раз у нас нехта кватаруе. Неяк жылі два выкладчыкі. І захацелі яны, каб я з братам звадзіў іх у грыбное месца. Пайшлі. Ідучы праз поле, натрапілі на зялікі куст з чорнымі ягадамі. Адзін з выкладчыкаў, рыжы і ўвесь у рабаціньні, пацікавіўся: «Што гэта такое расьце ў полі?» «Гэта жыды. У нас іх раней у вёсцы было шмат. Нядаўна амаль усіх павыразалі...» Другі выкладчык закашляўся і перавёў размову на грыбы...

Прачнуўся сярод ночы ад гулу матораў і лязгату гусеніц. Гляджу, мама ў цемнаце стаіць перад вакном, а бацька наагул выйшаў на ганак. «Вайна?» — пытаюся і буджу малодшых брата і сястру. Яны прачынаюцца, плачуць. Вяртаецца бацька і кажа: «Манэўры...» Раніцай выходжу на двор і бачу — усё поле застаўлена танкамі.

Жыў у нас кот Мурзік. Хоць і стары ён быў, але мы, дзеці, яго вельмі любілі, і бацькі не пераганялі яго з хаты. І неяк восеньню падсялілі нам старшыня калгасу кватарантаў з ружжом. Не ўпаляваўшы на возеры качак, ідучы праз поле дахаты, напаткалі дзядзькі Мурзіка і дзеля забавы застрэлілі. Я амаль паўдня шукаў ката і, знайшоўшы яго забітага, паплакаўшы, пахаваў тут жа ў полі. І вырасла ў полі трава, сярод якой ужо больш як дваццаць пяць гадоў ходзіць хлапчук і шукае Мурзіка.

Зіма. Еду з бацькам на санях у поле, дзе стаіць засьнежаны стог саломы. Навокал ні сьледу. Бацька расказвае, як ён, будучы хлапчуком, са сваім бацькам ехаў у Гарадок, і ўсю дарогу праз поле за імі бег воўк. А за намі — толькі вецер...



На другім курсе архітэктурнабудаўнічага тэхнікуму трапіў з аднакурсьнікамі на практыку ў Нясьвіскі раён. І калі засталося да вяртаньня ў Менск некалькі дзён, вырашылі ўзяць па сто грам. Гранзбэрг, Гальперын і Гурэвіч разьведалі хутар, на якім можна купіць самагонкі, але з намі, калі сьцямнела, пайшоў толькі Гальперын. Самагонкі мы не купілі, бо мясцовыя хлопцы, даведаўшыся пра нашыя намеры, прыехалі на грузавой машыне і матацыклах на хутар. «Мы вас чапаць ня будзем, аддайце нам толькі самагонку і жыдоў!» — крычалі, едучы за намі з уключанымі фарамі, мясцовыя. А мы, як авечкі, зьбіўшыся ў кучу, адыходзілі па полі да лесу. І дайшоўшы да першых кустоў, наш стараста скамандаваў: «На пяту!» І беглі мы па

# МІЖ ГОРАДАМ І ЛЕСАМ

Людміла Рублеўская

Для беларуса поле — сьмерць лесу.

Дакладней, гвалтоўная сьмерць.

Лес вынішчаюць для таго, каб зьявілася поле, якое дасьць ежу роду чалавечаму.

Але ў поля ёсьць свая сьмерць — людзкое паселішча. Падобна плесьні, разрастаюцца вёскі і мястэчкі ў пачварныя мэгаполісы, вакол іх пашыраецца арэол палёў, адцясьняючы лясы...

Вартыя жалю астраўкі дрэваў сярод баразнаў нагадваюць аб сапраўднай прыродзе гэтага месца, зьмененай цывілізацыяй.

Многія пусткі Зямлі, напрыклад, Сахара — вынік барацьбы чалавека зь лесам, саванай, травамі за некалькі гадоў ураджаю — пакуль не высналжыцца ўгноеная попелам глеба. «Высякай і выпальвай» — з такім лёзунгам прайшоўся чалавек разумны па плянэце, пашыраючы палі.

Нас выхоўвалі з усьведамленьнем, што поле — нешта сакральнае. Кожны прайшоў ініцыяцыю далучэньнем да «сапраўднай працы» — на полі. Студэнцкія і школьныя дэсанты на калгасныя палеткі, пасьля — леціцча... У беларусаў па-ранейшаму распаўсюджаная маніякальная прага зямлі, нават сярод самых рафінаваных гараджанаў. Вера ўва ўласныя соткі, што ўратуюць ад усіх нястачаў, спароджаная нестабільнасьцю жыцьця, вечнай пагрозай галадоўкі. Незьнішчальны міт, што варта толькі абудзіць у большасьці насельніцтва прыглушаныя шкоднай цывілізацыяй гены земляроба, адкінуць лены гарадзкі дабрабыт — і краіна патоне ва ўраджайнасьці і дабрабыце. Прафэсарам — вілы ў рукі і гной кідаць. Мы ж — нацыя сялянаў... Нездарма ў нас культывуецца нязбыўная віна перад стомленай бабулькай у гумовіках, зь віламі ў мазолістых руках. А якім антычным хорам выпяваюцца галашэньні па роднай зямельцы, якую ня будзе каму абрабляць, бо маладое пакаленьне не прывучанае да сялянскай працы, бо яно, новае пакаленьне, абляніласяй кідае вёску. І хто ж будзе карміць краіну, калі адамрэ старая вёска?

Вось толькі ў тых краінах, дзе на палях завіхаецца абсалютная большасьць грамадзянаў — непрасьветная галеча. А там, дзе сельскай гаспадаркай займаюцца тры-пяць адсоткаў насельніцтва, як правіла, тыя, хто сапраўды пакліканы да гэтага — хапае і сабе, і на продаж у тагальна сялянскія краіны...

Поле дае жыцьцё, поле забірае яго. Для выхаду ўнутрывідавой агрэсіі неабходная прастора. Глушцам дастаткова вытаптанай палянкі ў лесе, чалавеку патрэбнае поле, дзе могуць сысьціся два войскі. Можа быць, поле патрабуе, каб яго час ад часу засейвалі трупамі? Верылі ж нашы продкі, што на полі ўродзіць усё. Нават вырастуць камяні. Зямля як вобраз плоднасьці — гэта і ёсьць сынонім поля. Крывавыя разоры — сымбаль Беларусі больш, чым балота ці лес. На полі, засеяным трупамі, для адных вырастае воля, для другіх — рабства. Поле заўсёды падзяляе людзей — на прыгонных і прыганятых.



Напэўна, савецкія правадыры спрабавалі сублімаваць гэтую ўнутрывідавую агрэсію ў працоўны энтузіязм, калі абвяшчалі «бітву за ўраджай». Вы толькі ўспомніце твары калгасьнікаў на плянштэтах нагляднай агітацыі — квадратныя сківіцы, сурова ссунутыя бровы, сноп, прыціснуты да сэрца, як аўтамат Калашнікава... А колькі ворагаў у ваяроў поля — дождж, сонца, холад, сьпякота, вецер, зацішак...

Поле — ідэальнае месца для ўціхамірваньня рабоў. Правадыры сялянскіх паўстаньняў ведалі, што важную бойку трэба сплянаваць да таго, як самадзейных ваяроў пакліча да сябе поле — сеяць ці зьбіраць ураджай.

І не было больш дзейснага сродку падняць сялянаў на супраціў, як вытаптаць іх палі.

Поле — гэта прастора. Неабходная ўмова для разьвіцьця сьвядомасьці цывілізаванага чалавека. Толькі прастора дазваляе ўсьвядоміць каардынаты, спараджае патрэбу ў перасоўваньні, спазнаньні сьвету. Поле — гэта спакой, сузіраньне, засяроджаньне. Менавіта ў народаў, што жылі ў пустынных мясцовасьцях, раней за ўсіх разьвілася адзінабожжа. Таму ў беларусаў, дзяцей лясоў, так доўга захоўваюцца рэшткі паганства, пантэізму. Багі, якімі нашы продкі насялілі поле, не адыгрываюць таго значэньня ў нацыянальным пантэоне, як багі іншых месцаў. Палявік відавочна саступае ў магутнасьці Лесуну ці Дамавіку.

цёмным лесе, як зайцы па чыстым полі...

Іду на электрычку ў Дубравы. За Доўгай гарой — дымнае поле. Нехта падпаліў іржышча. Праяжджаюць машыны і не спыняюцца. І я іду па дарозе праз поле і прыгадваю дзеда, які ў пачатку пяцідзясятых атрымаў пяць гадоў турмы за некалькі каласкоў жыта, што падабраў на калгасным полі і прынёс дамоў...

У часе вучобы ў Літінстытуце нас вазілі на экскурсіі па Расеі. Павезьлі і на Барадзінскае поле. Хадзілі амаль паўдня, разглядаючы сярод кустоў і някошанай травы валуны і таблічы з надпісамі. Фатаграфаваліся каля помнікаў, на якіх чарнеліся арлы. Едучы назад, вечна маўклівы паляк Войцэх, гледзячы ў вакно на зарослыя быльнягом калгасныя палеткі, сказаў: «Барадзінскае поле...»

У Ракуцёўшчыне кожны год у пачатку чэрвеня праходзіць сьвята паэзіі. Госьці зь Менску, пад'яжджаючы да сялібы, дзе нейкі час жыў Максім Багдановіч, звычайна ўглядаюцца ў поле, на якім стаіць вышка. Глядзелі і сёлета, спадзеючыся ўбачыць пад аблокамі бел-чырвона-белы сьцяг. Сьцяга не было. На гэты раз мясцовыя міліцыянты цэлую ноч прасядзелі ў полі пад вышкай і не дапусьцілі да яе мясцовага Мірона.

«А ў полі крынічанька...» — сьпяваюць жанчыны. І я слухаю іх, і я ведаю тое поле, дзе пакуль яшчэ ёсьць крынічанька...

Найбольшае падабенства зь людзямі выяўленае ў малпаў, што жывуць на адкрытых прасторах. Такім малпам уласьцівыя барацьба за месца ў ерархіі статку, калі некалькі кволых аб'ядноўваюцца супраць аднаго мацнейшага. У іх статках ёсьць герантакратыя. Старыя самцы ўтвараюць своеасаблівы сэнат, раўніва ахоўваючы ўладу ад маладзейшых, бясконца павучаючы і гыркаючы на малпіны народ...

Поле адкрывае чалавечаму погляду неба. І поле ж вымагае зямнога паклону, позірку ўніз, у баразну. Поле заклікае да вольнага руху, і поле ж змушае да аўтаматычнай аднастайнай працы. Гэта Багдановічава антытэза каласка і васілька, матэрыяльнай карысьці і чыстае красы.

Павага да поля — інстынктыўная патрэба аберагчы сродак атрымання ежы.

Толькі ў полі чалавек адчувае сябе па-сапраўднаму самотным, бездапаможным. Ён адкрыты перад небам і перад іншым чалавекам.

У высокім жыце адчуваньне трывогі не зьнікае — ты па ранейшаму адкрыты ўсяму, што можа вынырнуць з залатых ці зялёных хваляў, да таго ж губляюцца каардынаты прасторы...

Палі капелюша, палі сышытка... А ёсьць яшчэ поле манэты, поле гербу... Сэнс, аднак, адзін — незапоўненасьць, пустка. Не пазбаўленасьць сэнсу — але сэнс пустэчы, знакавасьць незапоўненай прасторы.

Беларусь — белае поле на старонцы Эўропы, адкрэсьленае чырвонай лініяй.

# СІЛЫ ДАБРА НЯ СЬПЯЦЬ

***«Уваскрашэньне Антыхрыста зь мёртвых» -- супэрбэстсэлер кніжнага рынку ў ЗША***

***Палова насельнікаў зямлі раптам зьнікае, пакідаючы па сабе толькі купачкі адзеньня, на якіх ляжаць акуляры, біжутэрыя і зубныя плёмбы. Думаеце, такое можа адбыцца ў выніку выкарыстаньня марсіянамі таямнічай зброі? Не.***

«Уваскрасеньне Антыхрыста зь мёртвых -- зьвер бярэ ўладу» (*The Indwelling -- The Beast Takes Possession*), 390-старонкавая кніга ў нечувана папулярным у ЗША жанры апакаліптычнага раману пабіла ўсе рэкорды продажаў. За месяц пасьля выпуску яе выдавецтвам *Tyndale House*, што знаходзіцца ў штаце Ілінойс і спэцыялізуецца на выданьні Бібліі і рэлігійнай літаратуры, продажы склалі больш за 3 мільёны асобнікаў. «Антыхрыст» трымаецца на першым месцы ў сьпісе бэстсэлераў газэты The New York Times, а таксама штотыднёвага сьпісу бэстсэлераў Інтэрнэт-кнігарні Amazon.com і прафэсійнага Publishers Weekly.

Кніга, што выклікала такі ажыятаж, — гэта сёмы з дванаццаці заплянаваных тамоў у сэрыі Left Behind («Тыя, што выжылі»). Ідэя выданьня сэрыі належыць Тыму Ляэ, 74-гадоваму казанікуфундамэнталісту з Каліфорніі, а аўтарам яе — 54-гадовы Джэры Джэнкінз, які здабыў вядомасьць як аўтар папулярнай літаратуры на рэлігійную тэматыку і біяграфіяў спартоўцаў. Толькі ў ЗША прадалося ўжо за 20 мільёнаў асобнікаў выданьняў з гэтай сэрыі, на кожным зь якіх выдавец зарабіў больш як 10 мільёнаў даляраў.

## Комікс-прапаведзь

Кнігі гэтай парачкі фундамэнталістаў, што зьяўляюцца на рынку з пэрыядычнасьцю раз у паўгады, спалучаюць комікс і раман, малюнкі герояў у коміксавым стылі суправаджаюцца подпісамідыялёгамі, а раманны тэкст напісаны звышдынамічна, і разгортваньне дзеяньня нагадвае галівудзкія баевікі. Плюс навароты, характэрныя для навуковай фантастыкі. Хоць, падумаўшы, дык гэта чыстай вады прапаведніцкая літаратура. У першай кнізе сэрыі галоўны герой, Рэйфард Стыл, пілёт «Боінга-747», фліртуе з сцюардэсай пад час палёту, і раптам заўважае, што з борту паветранага карабля зьнікае сотня пасажыраў, у тым ліку і ягоная жонка і сын. Зьнікненьне — справа рук самога Творцы ўсяго бачнага і нябачнага. Бог паклікаў пад свой пасад палову чалавецтва, усіх праведнікаў, тым самым даючы старт канцу сьвету. Тых, што засталіся на Зямлі, чакае сямігадовы каскад катаклізмаў, паморкаў і іншых пакутаў, пасьля чаго, у адпаведнасьці з прароцтвамі Івана Багаслова, адбудзецца новае прыйсьце Ісуса Хрыста, ягонае тысячагадовае панаваньне, фінальная бітва сілаў Сьвятла і Цемры (Армагедон) і, нарэшце, паўстаньне Новага Ерусаліму.

У час «пераходнага пэрыяду» ўсё яшчэ можна навярнуцца ў праўдзівую веру, але зрабіць гэта няпроста, бо сьветам кіруе Мікалае Карпацыя, творца амаль аруэлаўскай Глябальнай Супольнасьці, былы прэзыдэнт Румыніі і экс-генсэк ААН, што па сваёй подэманічнасьці не саступіць князю Дракулу, па жорсткасьці — Сталіну, а па зманлівым шарме — «касмапаліту» Білу Клінтану. Навярнуўшыся ў праўдзівую веру, Стыл пераменяецца ў гэткага Рэмба-барацьбіта за веру і разам са сваімі дачкой і зяцем, што таксама вярнуліся да Бога, арганізуе своеасаблівае падпольле «веруючых», вымушаных хавацца ад шпегаў Глябальнай Супольнасьці. Місія Стыла — прывесьці да праўдзівай веры як мага болей людзей, найперш жыдоў, бо, згодна з тэорыяй Т.Ляэ, менавіта хрышчэньне 144 тыс. «юдэяў» — абавязковая ўмова «другога прышэсьця». Таму байцы апакаліптычнай партызанкі лётаюць рэактыўнымі самалётамі па цэлым сьвеце, круцяць баранку люксовых джыпоў і ўзгадняюць тактыку, карыстаючыся мабільнікамі і Інтэрнэтам. Гэткае пікжонства, вартае маладога мэнэджэра, не замінае ім, аднак, заставацца вернымі воінамі Хрыстовымі. *The Indwelling* апісвае здарэньні, што адбыліся за тры дні ад пасьняховага замаху на Антыхрыста да яго ўваскрасеньня зь мёртвых і новага прыходу да ўлады. «Калі чытаеш кніжку, здаецца, нібы яе аўтары машыню часу перанесьліся ў сьвет навуковай фантастыкі і маралі 50-х гадоў», -- ня вытрымаў рэцэнзэнт газэты *The Washington Post*.

## Оксфардзкае чытаньне

Сярэдні чытач не падзяляе думкі пыхлівых крытыкаў, у чым можна пераканацца, шчоўкаючы старонкамі віртуальнай кнігарні Amazon.com. «Фантастыка! Супэр! Файна! Цяпер я сапраўды ведаю, што будзе з намі неўзабаве!» -- вось водгукі чытачоў. На сайце выдаўца **http://www.leftbehind.com** можна знайсьці й сьведчаньні людзей, што пад уплывам сэрыі «вярнуліся да Бога» (Джэнкінз сьцьвярджае, што такіх — больш за 2 тысячы, у тым ліку і адзін асуджаны на сьмерць з Тэхасу, што чакае выкананьня прысуду), можна ўзяць удзел у дыскусіі на тэму Інтэрнэту, што зьяўляецца «інструмэнтам Антыхрыста». «Паводле ці то эгіпцкай, ці то габрэйскай нумэралёгіі, код www перакладаецца як 666, то бок сымбаль Антыхрыста» -- разгалоўствуе нейкі інтэрнаўт з глыбокага поўдня Амэрыкі.

Большасьць аматараў падобных кніг разглядаюць іх не як літаратуру выдумкі, а як своеасаблівую літаратуру факту, такія сабе ўспаміны з будучыні, -- сьцьвярджае Чарльз Строцыр, прафэсар гісторыі Гарадзкога ўнівэрсытэту Нью-Ёрку, аўтар кнігі «Апакаліпсіс — псыхалёгія амэрыканскага фундамэнталізму». Усё большая папулярнасьць «Тых, што выжылі» — гэта найлепшы доказ таго, што міленарысцкія настроі ў ЗША не саслаблі ані. Камэнтуючы посьпех сваёй сэрыі, Дж.Джэнкінз кажа: «Часам мне здаецца, што Бог стварыў мяне, каб я напісаў гэтую сэрыю, а часам — каб я стаў гульцом у гольф».

Дасьледчыкі сучаснай амэрыканскай духоўнай культуры ўважаюць, што большасьць чытачоў *Left Behind* — фундамэнталісты-маргіналы, што адчуваюць вакол сябе культурную пустку, бо на іх густы не зважаюць Галівуд, сучаснае мастацтва і лібэральная інтэлігенцыя. Між тым, колькасьць прыхільнікаў даслоўнага разуменьня Бібліі, традыцыі, што выводзіцца з г.зв. оксфардзкай школы другой паловы XIX ст., ацэньваецца як 50--70 мільёнаў сёньняшніх амэрыканцаў. Фундамэнталізм — зьява, што цяпер робіцца тыповай ня толькі для нэгрыцянскіх кварталаў і іншых «зьняважаных і ўкрыўджаных». Усё часьцей можна спаткаць прадстаўнікоў сярэдняе клясы, ідэалёгія якіх — фундамэнталізм. Амэрыканскія дасьледчыкі калектыўнае ўявы зьвязваюць пачатак росту зацікаўленасьці тэматыкай канца сьвету з вынаходзтвам атамнай зброі. Усьведамленьне таго факту, што людзкая раса можа зьнікнуць з паверхні нашае плянэты, цалкам зьмяніла мэнтальнасьць амэрыканцаў.

## Ідэалёгія пад сподам

Апісаньні звышнатуральных зьяваў, эсхаталягічныя візіі і дыдактычны тон, тыповыя для апакаліптычнага рэлігійнага ра-




ману, ёсьць абалонкаю для крайне правых ідэяў, што хаваюцца пад сподам закручанага сюжэту. Аўтары падобных раманаў выступаюць за ізаляцыянізм у замежнай палітыцы, ня церпяць жыдоў і гомасэксуалістаў, ставяць пад сумнеў вартасьці сьвецкага гуманізму.

Мікалае Карпацыя — гэта былы генэральны сакратар зьненавіднай ААН, а ягоны міністар культуры малюе сабе пазногці ў зялёны колер і пастанаўляе паставіць помнік свайму шэфу «ў выглядзе, у якім яго Госпад Бог стварыў». Адчуваюцца ўва ўсім гэтым адгалоскі культурных войнаў зь лібэраламі і судоў сэнатара Джэсы Гелмза супраць фатографа Робэрта Мэплторпа. Спэцыфічна ставяцца хрысьціянскія фундамэнталісты да жыдоў — з аднаго боку, яны ўважаюць утварэньне Дзяржавы Ізраіль адной з найважнейшых падзеяў найноўшай гісторыі (бо яно пацьвярджае прароцтва пра канец сьвету) і плачуць пры выглядзе ізраільскага сьцяга. З другога, «старэйшыя браты па веры» маюць для іх вузка інструмэнтальнае значэньне і могуць разьлічваць на збаўленьне пры апошнім судзе толькі пры ўмове, што пахрысьцяцца, бо, лічаць біблеісты, толькі хрысьціяне маюць права на валадарства нябеснае.

Яшчэ адна тыповая дэталь — хрысьціянскія фундамэнталісты прычараваныя карцінамі масавага гвалту, што разглядаецца ледзьве не як канечная ўмова паўстаньня раю на зямлі. У сэрыі Ляэ і Джэнкінза апісваецца не адно стыхійнае бедзтва і крываве забойства. Чаго там толькі ні сустрэнеш — аж да чацьвертаваньня сям'і «веруючых» агентамі ГС.

У галоўным жа большасьць камэнтатараў новага бэстсэлеру сыходзіцца -- празьмерная зацікаўленасьць мільёнаў людзей фантастыкай і звышнатуральнымі зьявамі сьведчыць пра тое, што ў разе вынікненьня нейкага значнага глябальнага крызысу дэмакратыя ў ЗША, на сёньня найстабільнейшай краіне сьвету, можа аказацца пад пагрозай.

*Паводле Gazety Wyborczej*

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

С.Сьмятаньнікаў. **Беларусазнаўства.** Навучальна-мэтадычны дапаможнік для выкладнікаў сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў. -- Менск: Беларуская навука, 2000. -- 149 с. -- Наклад 1700 ас. ISBN 985-08-0406-8

*Даволі добры падручнік для тых, хто хоча атрымаць падставовыя веды зь беларусазнаўства; адпавядае дзейным праграмам зь беларусазнаўства для сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў Беларусі. Цана 425 рублёў.*

**Belarus**. Magazine from the centre of Europe. № 2-3, 2000. -- Менск, 2000. -- 31 с., іл. -- Наклад 1000 ас.

*Ангельскамоўная вэрсія часапісу «Беларусь» выходзіць ужо другога разу й прызначана перадусім замежнікам з мэтаю прапаганды цяперашняга ладу жыцьця ў нашай краіне. Часапіс можа быць цікавы для выкладнікаў ангельскае мовы. Цана 1400 рублёў.*

**Гульні, забавы, ігрышчы** / Складальнік А.Лозка. 2-е выданьне. -- Менск: Беларуская навука, 2000. -- 534 с., нот. іл. – (Беларуская народная творчасьць). – Наклад 1300 ас. ISBN 985-08-0363-0

Усяго за пяцьсот рублёў у кожнай кнігарні краіны Вы можаце набыць гэтую кнігу – найпаўнейшы збор правіл і традыцыяў беларускіх гульняў, забаваў, ігрышчаў.

Л.Юргілевіч. Грэшная душа: Гумарэскі й апавяданьні. - Менск: «Вожык», 2000. – 32 с. – (Бібліятэка «Вожыка»). – Наклад 2000 ас.

Р.Сасна, Д.Фіёнік. Прыход Рыбалы. – Бельск-Падляскі – Рыбалы – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 1999. – 210 с., іл. ISBN 83-909009-7-1

Кніга распавядае пра сьвятароў і вернікаў прыходу Рыбалы на Беласточчыне -- тыповы прыклад існаваньня праваслаўнае высьпы на беларускім абшары каталіцкае Польшчы. Кніга багата аздобленая ілюстрацыямі, табліцамі й схемамі. Наконт набыцьця -- зьвяртайцеся ў сядзібу ТБМ у Менску (вул. Румянцава, 13).

С.Падокшын. **Унія. Дзяржаўнасьць. Культура** (Філязафічна-гістарычны аналіз). 2-е выданьне. -- Менск: Беларуская навука, 2000. -- 111 с. -- Наклад 2000 ас. ISBN 985-08-0360

*Усіх, каго турбуюць праблемы існаваньня ў Беларусі хрысьціянскіх канфэсіяў і, у прыватнасьці, уніяцтва, мае зацікавіць гэтая кніга. Першае выданьне разышлося імгненна, гэта ўжо другі наклад кнігі. Цана -- блізка 300 рублёў.*

М.Папека. **Чарнавікі**: Паэзія. -- Берасьце: ААТ «Берасьцейская друкарня», 1999. -- 92 с. -- Наклад 300 ас. ISBN 985-6413-40-0

**Эпоха**: Беларускі часапіс. Чэрвень 2000 г. -- Менск, 2000. -- 78 с. -- Наклад 5200 ас.

# ЗМАГАНЬНЕ З ТЛУШЧАМ

***Часам, зазірнуўшы ў люстэрка, хочацца ўзяць рубанак ды згабляваць зь сябе лішнія кавалкі. Тлустасьць ня толькі псуе выгляд, але й скарачае жыцьцё ў сярэднім на паўтара дзясяткі гадоў. Мэдыцына здаўна шукае ўсялякія спосабы змаганьня з тлушчам. Як і псэўдамэдыцына. Чароўныя пігулкі, травяныя дыеты кшталту гербалайфу даюць нетрывалы эфэкт. Бо ўсё, што даецца лёгка, лёгка й сыходзіць. Паводле закону захаваньня энэргіі, толькі вялікія высілкі альбо страты даюць вынік.***

***Спэцыялісты ў харчаваньні і здароўі, што зьвязалі сваю прафэсійную кар'еру зь лячэньнем тлустых людзей, цьвердзяць, што найлепшы прагрэс – павольны. У цяперашнім сьвеце мы мусім жыць так, каб навучыцца кантраляваць сваё цела: правільнымі звычкамі ў ежы, рухавасьцю, запабяганьнем шкодных смачнотаў. Адно пханьне ў сябе пігулак нічога ня дасьць безь зьмены псыхалёгіі.***



## Цэнзура на постаць

Ідэал рубэнсаўскіх дам, якія носяць на жываце, плячах, сьцёгнах і седаўках дрогкія адкладаньні лою, перастаў выклікаць замілаваньне. Надта вялікі кошт прыходзіцца за гэта плаціць – пераўвасабленьне стаўкоў, недастатковасьць крывацёку да сэрца, цукрыца, падвышаны ціск, які выклікае раптоўныя завалы сэрца й мозгу. Нягледзячы на такія жахі, у Беларусі каля 70% кабетаў і каля 60% мужчынаў пасьля 50 гадоў хварэюць на атлусьценьне кшталту «верацяно»: тлушч адкладаецца на жываце і паясьніцы тоўстай абалонкай, ахутвае вантробы. У выніку жыцьцё скарачаецца на паўтара дзясяткі гадоў. Калі тлушч асядае на сьцёгнах і седаўках, гэта не прыводзіць да такога фатальнага выніку, затое дае фатальны выгляд – усім вядомыя цэлюлітныя «галіфэ». Лекары кажуць адно: менargв ешце і болей рухайцеся. Але часам гэта спрошчаная парада. Дасьледнікі сьцьвярджаюць, што, калі тлусты чалавек хоча есьці, гэта тлумачыцца ўнутранымі патрабаваньнямі. Арганізм выпрацоўвае залішнюю колькасьць *нэўрапэптыдаў*, якія паляпшаюць засвойваньне тлушчоў і цукру. Прычынаю можа быць і лішняя колькасьць інсуліну, які мацуе адчуваньне голаду, або лішкі страўнага соку, якія чалавек імкнецца «закідаць» ежаю.

Няма праблемы тлустага чалавека, ёсьць праблема тлустай сям'і. Многія тлусьцеюць, пад'ядаючы паміж асноўнымі патравамі. Гэтая звычка фармуецца збольшага ў дзяцінстве. У 80% таўстых дзяцей і бацькі таўстыя. Часта гэта абумоўлена не генэтычнымі, а культурнымі прычынамі. Некалі ў адукаваных сем'ях сьняданак, абед і вячэра былі імпрэзамі, да якіх пераапраналіся, сэрвавалі стол, падавалі сыгнал. Цяпер жа сямейнікі па чарзе адведваюць кухню ды ядуць, стоячы перад лядоўняю, альбо, набраўшы місу, сядзяць ля тэлевізіі ці кампутара. Іншы час, іншыя тэмпы... Але: менавіта такі стыль сілкаваньня прымушае нас есьці не тады, калі голадна, а тады, калі смачна. Мы самі не заўважаем, як зьядаем гэтулькі калёрыяў, што яны неператраўляюцца, а засноўваюць калёніі па ўсім целе. Калі мы штодня цэлы месяц будзем паглынаць тысячу лішніх калёрыяў, гэта дадасьць нам ад 4 да 14 кілягramаў вагі.

## Падступны спадар Тлушч

Пры спальваньні 1 г тлушчу ў арганізм прыходзіць 9 ккал, а з 1 граму воглікаў ці бялкоў паўстае толькі 4 ккал. Тое, што мы ня можам так проста адмовіцца ад тлушчу ў дыеце. тлумачыцца проста. Тлушч, у параўнаньні зь іншымі складнікамі, дапамагае хутчэй спаражняць страўнік, не расьцягвае ягоных сьценак, не выклікае пачуцьця лішняе сытасьці. Гэта падступны вораг, і таму трэба гэтулькі моцы, каб раз назаўжды выкрэсьліць яго са сьпісу страваў.

Не палянуйцеся прагледзець гэтую табліцу. Яна вас уразіць.

## Шляхі паратунку

Існуе «Залаты сьпіс» слушнага сілкаваньня. Ён прапануе худнець без фанатызму. Каб быць здаровым, трэба штодзённа спажываць:

– Самае малое, тры патравы рацыянальных памераў за дзень. Абавязковы сьняданак

– У кожнай патраве павінна прысутнічаць штосьці са збожжа – цёмны хлеб, кашы, аладкі, макароны ці бульба

– Садавіна і гародніна – на кожную патраву, а таксама і паміж імі

– Самае малое, дзьве шклянкі малака (лепш нятлустага), або столькі ж кефіру ці ёгурту, а таксама 1-2 лустачкі сыру

– 1 раз на дзень – рыба альбо птушка, альбо гарох, альбо квасоля, альбо мяса

– Вялікая лыжка алею, а таксама ня болей за дзьве малыя лыжкі мяккага маргарыну (без жывёльных тлушчоў)

– Мінэральная вада і натуральныя сокі з садавіны й гародніны – ня меней за літар

## Пігулкі

Толькі ў 1998 годзе на заходніх рынках зьявіліся сродкі, якія, зганяючы тлушч, ня чыняць шкоды мозгу й сэрцу. У нас гэтыя навінкі яшчэ невядомыя, а калі зьявяцца – будуць мець недаступны кошт. Напрыклад, *арлістат (ксэнікал)* альбо *сыбутрамін (мэрыдыя)* у Польшчы каштуюць каля 300 злотых. Старыя ж лекі, якія зьмяншаюць апэтыт, узьдзейнічаюць або на сардэчныя заслонкі, або на нэўроны мозгу, якія «адказваюць» за пачуцьцё сытасьці.

Дзеяньне многіх найноўшых лекаў палягае ў тым, што яны не даюць тлушчу засвойвацца, і той выводзіцца з арганізму натуральным шляхам. Гучыць быццам бы добра, і людзі купляюць. У Нямеччыне і Ангельшчыне ксэнікалу спрадалі ўжо ў два разы больш, чым віягры. Зразумела, гэтым справа ня скончыцца, і заходнія фармаколягі выдумаюць новыя лекі. А праз трыццаць гадоў фармакалёгія яшчэ ўдасканаліцца, і стане вядома, што нашыя найлепшыя няшкодныя лекі усё-ткі маюць бакавыя эфэкты.

## Спорт

Нават калі вы схуднелі, гэтага бывае мала. Твар змучаны, цягліцы і скура вісяць, пастава згорбілася. «Худая карова яшчэ не газэль». Прыйдзецца ўкласьці грошы ў спорт. Гэта можа быць шэйпінг. трэнаж, калянэтык, басэйн, лазьня, ранішні бег. Але яшчэ ніхто ня здолеў стаць зграбным, займаючыся спортам дома, у тэпцях і старым халаце, пад соннае дыханьне сямейнікаў. Купіце прыгожы спартовы строй, белыя пантофлікі ці красоўкі, пайдзіце ў спартовую залю. Карацей, худзеньне прыйдзецца неяк абсталяваць, зрабіць рытуалам. Інакш – кажу з досьведу свайго й чужога – нічога ня выйдзе.

## Еш поснае!!! Ня еш тлустага!!!

| ТЛУСТАЕ | К-СЬЦЬ ТЛУШЧУ (ў г) | ПОСНАЕ | К-СЬЦЬ ТЛУШЧУ (ў г) |
|---|---|---|---|
| 3,2 % малако (0,5 л) | 16,0 | 0,5% малако (0,5 л) | 2,5 |
| Ёгурт поўны (150 г) | 4,8 | Ёгурт нятлусты (150 г) | 0,27 |
| Тварог белы тлусты (100 г) | 9,2 | Тварог нятлусты (100 г) | 1,2 |
| Сальтысон (50 г) | 14,5 | Шынка ялавічная (50 г) | 2,5 |
| Сьвіныя скабкі (100 г) | 47,0 | Вяндліна з птушкі (100 г) | 2,4 |
| Карп (150 г) | 10,7 | Тунец (150 г) | 1,3 |
| Шынка вэнджаная (150 г) | 35 | Маладая ялавічына (150 г) | 3,0 |
| Разам: 137,2 г тлушчу= 1235 ккал | 137,2 | Разам: 13,7 г тлушчу= 118,5 ккал | 13,17 |

Сьвятлана Курс

*Лічбы і табліца прыведзеныя паводле часопіса «Polityka» (Польшча)*



# ПАДПІШЫ СЯБРА

Шаноўныя чытачы, мы ведаем, што спаміж вас ёсьць тыя, хто хацеў бы выпісваць «Нашу Ніву», але ня мае, за што. На вялікі жаль, пры сёньняшняй эканамічнай сытуацыі наша газэта (як, зрэшты, і ўсе астатнія) выходзіць сабе ў страту, але й кашту пры гэтым для многіх задорага. Таксама ёсьць сярод вас і такія, у каго фінансавае становішча лепшае, і хто хацеў бы падтрымаць нашае выданьне ў гэты нялёгкі час. Дык злучым жаданьні адных і магчымасьці другіх!

Усе, хто хацеў бы выпісваць «НН», але ня мае на тое сродкаў, паведамце ў рэдакцыю вашыя адрасы. Усе, хто хацеў бы дапамагчы сваім бяднейшым братам і «Нашай Ніве» падпіскаю, паведамце пра сябе рэдакцыі.

Наш тэлефон **213-32-32.**

Няхай чытачоў у «НН» будзе болей.

Пакажам сабе ды іншым, што развагі пра нараджэньне беларускай супольнасьці — не пусты гук.

***Рэдакцыя***




Беларускамоўныя аўдыё- і відэакасэты, а таксама навінкі кніжнага сьвету: Тэл.: (017) 241-60-35, альбо лістуйце на адрас: Кірыл Рэўтовіч, 220096, Менск, вул.Галадзеда, д.31, кв.9.



*Ён палюбіў нас і паслаў Сына Свайго дзеля зьмілаваньня над грахамі нашымі. 1Яна 4 10*

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**

Набажэнства штонядзелю **ў Менску** а 17-й гадзіне: *вул. Любімава 21-56, тэл.: 270-89-87, 279-71-31.*

Штонядзелю **ў Асіповічах** аб 10-й гадзіне: *вул. Леніна 40, тэл.: 20-840.*


*Анатоль!*
*Віншук з 25 годзьдзем*
*Няхай усе тое пра што ты марыш абавязкова зьдзейсьніцца!*
*Наталля*

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

*- да 20 словаў (тэкставы модуль)— **93** руб.*
*- звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — **120** руб*
*- па-мастацку афармленая аб'ява – **57** руб за 1 кв см*
*- па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **75** руб за 1 кв см*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва». р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г Менску, код 763.*

На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

Рэдакцыя

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншую Сашу з 26-годзьдзем, Іначку з 20-годзьдзем.** Здароўя, вытрымкі, дабрыні і каханьня на ўсё жыцьцё. Мама

**Вавян!** Няма неба безь цябе. Зьнічка. P.S. Хвалююся за Глебушку

**Наталька Х. зь Берасьця.** Вітаю Цябе ў нашых шэрагах. Зычу плённае працы на ніве Адраджэньня. Старшыня

### кантакты

**Просім адгукнуцца маладых сьвядомых беларусаў і беларусак з Мазыра.** Мазыр, т.: 3-75-96 (Кася)

Я вытрываў палову службы. **Падтрымайце салдата лістом** у другую палову. Балахонаў Сяргей. В/ч 7404-»П», г.Ваўкавыск-3, Гарадзенская вобл., 231900

**Адміністрацыі «Сотвар»**: а хатка ў вас някепская, бачыў. Асабліва спадабаўся надпіс пра прыватную ўласнасьць, якая не ахоўваецца дзяржавай. Жадаю посьпехаў! Aleks

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. А/с 78, 220141, Менск

### ідэі

Як сьцьвярджае зорніцтва, сонейкі — гэта жоўтыя карлікі. Парадокс! (Некаторым маладым таленавітым для роздуму.) Вольга

Я падпісаўся на «НН». А ты? Дарэчы, падпіска на шапік — танна і зручна. Aleks

Нашу дзяржаву зьнішчылі ў XVIII ст. — яе няма, але ёсьць мы — людзі. Тады што замінае зноў стварыць дзяржаву! 220113, а/с 197 (ВКЛ). paustan@europe.com

Не сымболіка спараджае дзяржаву, а дзяржава мае адпаведную сабе атрыбутыку. Не дзяржава стварае людзёў, а людзі спараджаюць дзяржаву! 220113, а/с 197 (ВКЛ)

Ня хочаш быць першым, будзь лепшым. Ня хочаш быць лепшым, будзь першым. Інакш параза! 220113, а/с 197 (ВКЛ). paustan@europe.com

### кнігі, пэрыёдыкі

«Наша Місія» — выданьне студэнтаў Беларускай каталіцкай місіі (усходняга абраду) у Англіі. Замаўляйце: Our Mission, 41 Hoden Rd , London N12 8HS, Great Britain

**Прадаю кнігу «Трахтат равіна Аль Фасі»** на габрэйскай мове, 1886 г. выданьня. Т.. (8-02251) 23-787

**Не хапае ў зборы твораў Караткевіча 1, 3, 4, 5 т.** Калі ласка, можа хто дапаможа набыць. Пятро Шадура, 247940. Петрыкаў. Талстога 22, Гомельская вобл.

Набуду 1-я тамы **Энцыкляпэдыі Беларусі і Беларускай Гістарычнай Энцыкляпэдыі**. Т.: 249-23-25 (пасьля 19-й), Андрусь

**Юрыдычную літаратуру для адвакатаў**, б/в. Вельмі танна. А/с 124, 246012, Гомель

**Кнігу «Маладзік» Ігара Лойкі** можна набыць у кнігарнях ТБМ (вул.Румянцава, 13), управы БНФ

**Gardarika = плюралізм**. Запрашаем да супрацоўніцтва людзей зь нестандартным мысьленьнем. У спрэчках нараджаецца ісьціна. Замаўляйце другі нумар. 220082, а/с 188

**Газэта «Слова Нацыі»** — авангард грамадавага нацыяналізму. Замаўляй, далучайся да сьвятарнай Традыцыі. 220086, Менск, а/с 121

### відэа, музыка

**Беларускі відэаклюб ТБМ** у Менску шукае беларускамоўныя відэазалі з рэгіёнаў (для забесьпячэньня іх прадукцыяй). 220107, а/с 150; belvidea@hotmail.com; т. 240-7801

**Відэафільмы па-беларуску**: замежныя і беларускія. Бясплатны каталёг (дашліце капэрту на адрас: 220107, а/с 150)

**Зьбіраем заяўкі на відэакасэты і відэа-CD**: «Пан Тадэвуш», «Агнём і мячом», «Матрыца», «Бэтховэн», «Красуня» («Pretty woman»), «Кароль Леў» (мультфільм). 220107, а/с 150; belvidea@hotmail.com; т. 240-7801

**Шукаю тэксты з акордамі NRM, Касі Камоцкай, Крамы**, Бонды, ULIS («Падарожжа»), «Народнага альбому». 246018, Гомель, вул. Б.Царыкава 3-209

### краўчыха

**Шукаю краўчыху, якая б нядорага пашыла школьную форму** для дзяўчынкі 7 гадоў. Т.: 272-81-98

### праца

**Краўчыха з досьведам** шукае дадатковай працы ў хаце (ёсьць машына, авэрлёк). Т.: 8-216-4-65-58

**Дапамагу пачаць уласную справу ў хаце** (не распаўсюджваньне). Нескладана! Могуць усе! Прыбытак ад 200 у.а. Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон ____________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Намесьнік галоўнага рэдактара Андрэй Дынько. Рэдактар аддзела інфармацыі Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Віктар Корзун. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.

**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 213-32-32. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3295. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 16.07.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 3568. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Чырваназорная, 5/9